# БОЖЫМ ШЛЯХАМ

1969
Лістапад-
Сьнежань

Год XVII
№ 6 (117)

ЗЬМЕСТ:

ПАДПІСКА «БОЖЫМ ШЛЯХАМ» НА 1968 г.:

У Задзіночаных Штатах Амэрыкі — 3 даляры.

У Вялікабрытаніі — 18 шылінгаў.

У іншых краінах у суме раўнаважнай 18 англ. шыл.

---

ЧАСАПІС МОЖНА ЗАКАЗЫВАЦЬ:

У Задзіночаных Штатах:

Mr. Antony Bielenis, 3006 Logan Blvd, Chicago, Ill. 60647, USA.

Mr. B. Danilovich 303 Hovard Str., New Brunswick, New Jersey, USA.

Mr. G. Gosciejew, 3416, W. 49-th Str. Cleveland 2, Ohio, USA.

Mr. Ch. Najdziuk, 833 N. Coronado Str. Los Angeles, Calif, USA.

Mrs. J. Kachanovska, 8 St. Mark's Pl. New York, N. Y., USA.

У Канадзе:

Mr. Pituška, 116 Grand Ave, Toronto, Ont. 560 Canada.

У Нямеччыне:

Mgr. Ul. Salaviej, 892 Schongau/Lech, Städt. Altersheim, W. Germany.

У Аўстраліі:

Mr. M. Nikan, 14 Steel Str., Spotswood — Melbourne, Vic. 14, Australia.

---

Матар'ялы прызначаныя да друку ў нашым часапісе слаць на адрас:

Rev. J. Hermanovič, MARIAN HOUSE,
HOLDEN AVENUE, LONDON, N. 12. Gt. Britain.

УВАГА: Адрас просім пісаць з усімі знакамі — N. 12. азначае North, а не нумар.


# ON GOD'S HIGHWAY

**Year XVII** **November—December** **№ 6 (117)**

**1969**

MARIAN HOUSE, HOLDEN AVE, LONDON, N. 12.
ENGLAND

# БОЖЫМ ШЛЯХАМ

Год XVII | ЛІСТАПАД—СЬНЕЖАНЬ | № 6 (117)


# Калядныя думкі

У Каляднюю ноч — адзіная такая была ў гісторыі — Хрыстос нарадзіўся з Дзевы Марыі. Гэтак пакіраваў Бог людзкім лёсам Свайго Сына, каб ня было сумніву, што Хрыстос ёсьць сапраўдным чалавекам, а не якоесьці астральнае цела, эон, ці паў-бог.

Тую самую праўду інакш высказаў сьв. Ян Эвангеліст: «Слова сталася целам і прабывала паміж намі і мы бачылі ягоную славу, славу як адзінароднага ад Айца, поўнае ласкі і праўды» (Ян 1. 14).

«Слова» — гэта другая Асоба Сьвятой Тройцы.

«Сталася целам», значыць, адвечна існуючы ў улоньні Айца — Сын Божы — прыняў у часе людзкую натуру, — стаўся адным з нас, людзей.

Хрыстос прыйшоў на зямлю вучыць і збавіць.

*

Тут мы крыху даўжэй разважым пытаньне, каго Хрыстос прыйшоў вучыць? І хто быў тым шчасьлівым, што мог упісацца ў школу Самога Хрыста?

Эвангельле паказвае, што студэнтамі Божага Настаўніка ня была якая-небудзь асаблівая групоўка або кляса.

Перад усім трэба сьцьвердзіць, што рэлігія Хрыста ня была нацыянальнай, а тым менш нацыяналістычнай. Гэта адрожнівае навуку Хрыста ад усіх іншых старадаўных рэлігіяў, улучна з жыдоўскай.

«Ідзіце і навучайце ўсе народы» — гэта характэрны Хрыстовы ўнівэрсалізм. Значыць, вучні не павінны рабіць розніцы ў сваей апостальскай місіі між народамі.

Таксама кажны мае свабодны доступ да Хрыста: «Прыйдзіце да Мяне ўсе працуючыя і абцяжаныя, а я вас супакою» (Мат. 11, 28). Хрыстос заклікае ўсіх: мужчын і жанчын, вялікіх і малых, гаспадароў і нявольнікаў, вучоных і невукаў, справядлівых і грэшнікаў.

Адзінай умовай уваходу ў школу Хрыста — у круг яго вернікаў — ёсьць патрэба добрай волі.

Калі разважаем навуку Хрыста, дык усё выглядае ў сваей прастаце вялікім, а ў ахвярнасьці геараічным. Чаму-ж тады ня ісьці ў сьлед за Ім?

Сам Хрыстос паказаў у аднэй прыповесьці Самога Сябе як гаспадара, а запрошаных як гасьцей. Тыя госьці належылі да вышэйшай клясы: яны мелі і час і магчымасьць прыняць заклік, каб прыйсьці на вячэру, аднак адмовіліся. Адзін купіў новую сялібу ды пайшоў аглядаць яе; другі купіў пару валоў, дый пайшоў выпрабоўваць іх, а трэйці ажаніўся дый ня мог пакінуць хаты . . .

Што-ж зрабіў гаспадар? Ён вельмі разгневаўся і загадаў слузе: «Пайдзі хутчэй па вуліцах і вулках места і прывядзі сюды ўбогіх, калекаў, кульгавых, сьляпых» (Лука 14, 21).

Няцяжка зразумець, што запросіны на вячэру — гэта сымбалічны заклік Хрыста ісьці за Ім. А ўсе калекі і іншыя недалужныя, што прыйшлі пасьля адказу вышэйшых клясаў, прадстаўляюць людзей апушчаных і забытых у грамадзтве.

Ужо некалькі стагодзьдзяў перад Хрыстом прарок Ізая, як адну з характэрных рысаў Мэсыяша, прадказваў навучаньне бедных і аздараўленьне хворых. (Ізая, 29, 18; 35, 5).

Сам Госпад паслом Яна Хрысьціцеля — на доказ свайго Божага пасольства — заявіў: «. . . сьляпыя бачуць, кульгавыя ходзяць, пракажоныя ачышчаюцца і глухія чуюць, памёршыя ўваскрасаюць і ўбогім абвяшчаецца Эвангельле». (Мат. 11, 5).

Тое, што Хрыстос — малады Настаўнік — навучаў убогіх, ішло ў разрэз з сучаснай Яму філязофіяй. Вялікія філязофы і пэдагогі — Пітагор, Протагор, Плятон, Арыстотэль — абмежвалі сваё навучаньне да невялікіх групаў людзей, якія звычайна належылі да вышэйшых клясаў грамадзтва і да тых, што кіравалі дзяржавамі. Старадаўныя грэкі і рымляне ня зналі народных школаў. Просты народ, «плебс», ня меў доступу да ніякіх школаў, Імі пагарджалі. Слаўны рымскі паэт Горацыус пісаў: «Ненавіджу прастанародзьдзя і чураюся яго» (Оды, кн. III, ода 1-ая).

Зусім падобна было і ў часох Хрыста сярод жыдоў. Сэкта фарызэяў, садуцэяў і вучоныя ў Старым Законе трымалі манаполь на навуку. Даходзіла да таго, што лічылі нячыстым піць з тых самых кубкаў, з якіх піў просты народ і сьцерагліся іх як праказы. Паводле фарызэяў: «Грамада, што ня знае Закону, праклятая» (Ян 7, 49).

А Хрыстос зьбліжаецца да народу: стаўся адным з тых, якімі пагарджалі. І таму ішлі за Ім грамады народу, слухалі Яго, бо «ніколі так чалавек не гаварыў, як гэты Чалавек». (Ян 7, 46).

У Калядны сьвяты час паслухаймо і мы — ня толькі нашых прыгожых песьняў (з грамафонных дыскаў), ці сусьветных мастакоў — але разважым, што сьпявалі анёлы ў Бэтлееме і што пасьля гаварыў Сам Хрыстос! «Слава на вышынях Богу і на зямлі супакой людзям добрай волі!» (Лука 2, 14).

*Біскуп Чэслаў Сіповіч*

---

*Уладзімер Глыбінны*

# На Сьвятой Зямлі

(НАРЫСЫ З ПАДАРОЖЖА Ў ПАЛЕСТЫНУ)

*(Працяг)*

## СЭРЦА СЬВЕТУ

*«Светися, светися, Новый Іерусалиме . . .»*

З Вялікоднага Канону.

І вось нечакана рана пакоі паломнікаў былі залітыя сьвятлом паўдзённага сьвяцілы і пачалося жыцьцё ў самым асяродку зямлі, да якой зьвярталіся і якой дыхалі заўсёды нашы сэрцы, калі згадваліся ў малітве боскія чыны нашага Збаўцы. Перш-наперш нашыя душы цягнуцца да Храму Жываноснага Гробу Гасподняга ў Ерусаліме. Гэта якраз самае запаветнае месца на Сьвятой Зямлі, дзе кажны камень апавяшчае бязьмежную любоў да нас Боскага Сына.

Мы ледзь ні подбегам мінаем Дамаскую Браму, што адлучае Стары Ерусалім ад Новага, праціскаемся сілком праз пярэсты натоўп гаманлівых арабаў, што суцэльным патокам запаўняюць вузенькія вулкі са сваім скарбам на осьліках, не зьвяртаем увагі на гандляроў, што чуць ні сілком стараюцца зацягнуць нас у свае крамы, паразьвешваўшы на вуліцах свае тканіны, кумпякі забітых бараноў, павыстаўляўшы тысячы мяшэчкаў крупаў, мукі, сушанае і сьвежае гародніны і садавіны. У нашай галаве адна думка, адзін намер — хутчэй дапяць тога запаветнага сэрца, дзе дзеля любові да нас грэшных адбылася тая тайная ахвяра Збавеньня.

І вось, пасьля здавалася-б бясконцага змаганьня і пераадоленьня гандлярскіх спакусаў маркантыльнага сьвету па дарозе, нарэшце мы каля Храму Жываноснае Дамавіны. Ён увесь у абыймах іншых царкоўных пабудоваў: Грэцкай Патрыярхіі, Лацінскага, Армянскага і Коптскага манастыроў. Дзеля таго яго ня відно здалёку. Пасьля землятрусу 1827 г. ангельскія інжынеры ўмацавалі яго жалезнымі і драўлянымі контрфорсамі. Ужо каторы год Храм у рыштаваньнях дзеля таго, што адбываецца рамонт. Дзень і ноч чуецца стук малаткоў: выпрабоўваецца кажны камень, каб уся пабудова не абвалілася ў крытычныя часіны землятрусаў, якія часам наведваюць гэты край. Усімі працамі кіруюць тры архітэктары: француз, грэк і армянін. Разам з тым праводзяцца раскопкі. Ужо дакапаліся аж да пластоў з часоў крыжаносцаў. А не так даўно ўжо дайшлі нават да фундаманту з часоў Царыцы Алены, г. зн. Чацьвёртага веку.

Тут, дарэчы, будзе на часе прыгадаць крыху з гісторыі гэтага найвызначнейшага Храму ў сьвеце.

Пасьля разбурэньня Ерусаліму ў 70 годзе нашае эры аж 180 гадоў цягнулася зьнявага і ганьбаваньне з боку паганскіх рымлянаў. Язычнікі зьдзекваліся над помнікам Бесьсьмяротнасьці. Каб схаваць ад чалавечных вачэй Выратавальную Пячору Уваскрошаньня, яны навезьлі адусюль зямлі і каменьняў, рознага сьмяцьця і засыпалі імі ўсю тэрыторыю Жарсьцяў Хрыстовых, пазьней забрукавалі каменьнямі. А Імпэратар Адрыян пабудаваў на Галгофе Храм Вэнэры, а на месцы Уваскрошаньня Хрыстовага — Храм Юпітэру. З тых часоў Галгофа і ўвайшла ў межы гораду. І адно ўжо ў чацьвёртым стагодзьдзі тое месца было ачышчанае ад сьмяцьця аж да зямлі, паганскія пабудовы былі зруйнаваныя, і перад вачыма зноў адчынілася Выратавальная Пячора, сьведчаньне сьвятога

Уваскрошаньня. На царскі загад быў пабудаваны варты яе Храм. Царыца Алена, дарма, што мела ўжо 80 гадоў веку, сама прыехала ў 326 годзе ў Ерусалім, каб кіраваць пошукамі крыжа Гасподняга. Па ейных плянах і будаваліся Хрысьціянскія Храмы па ўсёй Сьвятой Зямлі. Рэшты ейных Храмаў і на сяньня служаць маякамі і паказьнікамі дакладных месцаў Эвангельскіх падзеяў. Паводле ейных храмаў пазьней будавалі імпэратар Іустыніян, і крыжаносцы, і ўсе хрысьціянскія дойліды пазьнейшых вякоў.

Храм Уваскрошаньня Хрыстовага, гэты Новы Ерусалім, быў нагэтулькі дасканалым узорам хрысьціянскага дойлідства і цалкам зіхацеў золатам і мармурам, што ўяўляў сабою незраўнаны ні з чым узор вялікапышнасьці і харaства. Нездарма аб ім сьпяваецца ў Вялікодным Каноне: «Светися, светися, Новый Іерусалиме . . .» Дарэчы, тагачасны Храм быў у тры разы большы за сучасны.

Храм Уваскрошаньня Гасподняга ўжо тады аб'яднаў сабою пад адным дахам Пячору Ўваскрошаньня Хрыстовага, Галгофу і месца Знаходжаньня Крыжа. Гэта быў Храм вялізарнейшых памераў. Знадворку сьцены былі зробленыя з цёсаных каменьняў. Зьверху царкву пакрывалі волавам, а ў сярэдзіне столь з разных кесонаў накшталт шырокага мора. Яно пашыралася над сярэднім нэфам, пакрытым золатам, якое асьвечвала ўвесь храм блескам накшталт праменьняў сонца.

Ува ўсю даўжыню Храма ішлі Калянады. Насупраць трох усходніх уваходаў у Храм было дванадцаць калёнаў па колькасьці Апосталаў. Яны былі ўпрыгожаныя па капітэлях вялікімі сярэбранымі келіхамі.

Урачыстае асьвячэньне Храма Ўваскрошаньня Хрыстовага айцамі Тырскага Сабору 13 верасьня 335 году адзначаецца да сёньня сьвятам «Аднаўленьня Храму ў Ерусаліме» штогодне 13 верасьня, ведамага ў народзе, як сьвята «Словущаго Воскресения», г. зн. заместа нядзелі дзеля таго, што 13 верасьня не заўсёды выпадае на нядзелю.

Аднак пабудаваны царыцай Аленай у IV веку вялікасны Храм Уваскрошаньня Гасподняга не захаваўся да нашых дзён. Ён неаднаразова разбураўся заваёўнікамі-іншаверамі, адбудоўваўся, зноў разбураўся да фундаманту. Апошняе зруйнаваньне яго мела месца ад выпадковага пажару ў 1809 г. І толькі адноўлены пасьля тога пажару ён дажыў да нашых дзён. Цяпер ён, ведама, больш сьціплы ў параўнаньні з Храмам чацьвёртага стагодзьдзя. Аднак, ягоная слава і значаньне ляжаць, магчыма, больш у сярэдзіне яго, чымся знадворку — іначай кажучы, ягонае значаньне духовае, а не ў вонкавым выглядзе і пышнасьці. Для кажнага хрысьціяніна наведваньне яго становіць найважнейшую падзею ў духовым жыцьці і станаўленьні або самавызначэньні рэлігійнае станоўкасьці.

## МАЛІТВА ЛЯ КАМЕНЯ ПАМАЗАНЬНЯ

*«Войдите, странники, во обитель Господа, во Гроб Жизни, где благодать обитает и благословенный Свет не иссякает».*

З колішняга напісу на левым баку Храма Гасподняга.

Перад адзіным цяпер уваходам у Храм Гасподзен невялікі пляц. Мы стаім на ім удзячлівыя лёсу за тое, што ён даў нам змогу цяпер мілавацць зрокам гэтыя пэрлы. Справа Аўраамаўскі манастыр, дзе цяпер жыве Сьвятагробскае Брацтва і які быў пабудаваны на месцы, дзе некалі, паводле паданьня, Патрыярх Аўраам рыхтаваўся прынесьці ахвяру — свайго сына Ісаака. Манастыр пабудаваны ў 16—17 вякох. А да сёмага веку там быў стол для зьбіраньня міласьці для бедных. Мы любуемся Храмам Сарака Пакутнікаў, з каланчы якое чуцён урачысты звон званоў, падараваных царкоўнымі людзьмі нашае Бацькаўшчыны ў часе Крымскае вайны. Далей вочы спыняюцца на Храме Жонак-Міраносьбітак, пабудаваным на месцы зьяўленьня Хрыста Ўваскрослага сьвятой Марыі Магдаліне. А побач з ім нельга не адзначыць Храм Сьв. Якава, Брата Гасподняга, дзе захоўваецца трон патрыярхаў сьв. Града, спадчыньнікаў сьв. Якава. Некалі на правым баку Храма Гасподняга быў надпіс: «ВКУСИ, поклонник, истиннаго наслаждения; войди в радость Господа, в многообильное светом небо — матерь церквей».

І мы трапятліва ўваходзім у Хорам Хорамаў. Айцец Архімандрыт з глыбокай пашанай прыкладваецца да апаленай калёны, зь якое ў Вялікую Суботу праваслаўныя атрымалі Жыватворны Агонь, які вяшчаў ім зварот Храму.

Мы ўсе сьхіляемся ўкленчаныя перад жоўта-ружовай мармуравай плітою — Камнем Мірапамазаньня. Пад ёю сапраўдны камень, на якім зьнятае з крыжа Вельмічыстае цела Хрыстовае рыхтавалася да пахаваньня Сьв. Язэпам і Нікадзімам. Да пачатку рамонтных работ над плітою стаяў высокі пазалочаны балдахім з чатырмя ад праваслаўных, двумя ад каталікоў і двумя ад армянаў вялікімі незгасальнымі лампадамі. Каля іх стаялі шэсьць вялікіх падсьвечнікаў. Вакол пліты на раме грэцкі тэкст, які значыць: «Благообразный Иосиф с древа снем пречистое тело



*«Бетлеемская зорка»*
*месца, дзе нарадзіўся Хрыстос*



*Базыліка Хрыстовага Нараджэньня*



*Рака Ярдан*

твое, плащаницею чистою обвив и благоуханьми покрыв положи».

Гэта ў часе Чына Пахаваньня ў Вялікую Пятніцу Сьвятая Плашчаніца крыжовым ходам узносіцца на Галгофу і адтуль пасьля ўнізе кладзецца на Камні Памазаньня, пасьля таго, як яе тры разы абнясуць вакол. У той час адзін з сьвятароў узьлівае міру на Плашчаніцу. Затым яе пераносяць у Дамавіну Гасподнюю і пакідаюць яе там да раніцы.

Дзеля таго, што Камень цяпер быў самотным, пазбаўленым упрыгожаньня балдахінавага і незгасальных лампадкаў, ён яшчэ больш адцяняў і рабіў уразьлівым напамін аб тым, што тут адбылося бадай-што дзьве тысячы гадоў таму назад. Паломнікі надоўга застывалі сьхіленымі над камнем Памазаньня, як бы не ўстане адарвацца губамі ад вялікшае рэлквіі пакутаў за кажнага з нас паасобку і за ўсе нязьлічаныя пакаленьні ў вякох.

Усевалад Ціхановіч як укленчыў і прыпаў тварам да халоднага мармуру, то гэтак і застаўся праз доўгі час, раз-за-разам хрысьцячыся і абліваючыся непадробленымі сьлязьмі. Каля яго з абодвых бакоў увесь час мяняліся людзі, зьгіналіся, цалавалі камень і разьгіналіся, а ён усё ніяк ня мог адарваць мокры твар ад Пліты Пакутаў. У ягоным уяўленьні паўставалі абразы таго, чыё зраненае і ўкрываўленае цела сьвяцілася тут пад Плашчаніцай адвечнай тайнай нясьцерпных Жарсьцяў і чые пакуты сталіся Збавеньнем усяго людзтва на векі вечныя.

«Божа, мой Божа, Госпадзь Ісус, як-жа мала мы зрабілі яшчэ ў жыцьці дабра, добрых справаў, калі параўнаеш іх з тваім Вялікім Чынам!» — думаў Усевалад, усё такжа ўкленчыўшы і плачучы ўсім сваім страсянутым нутрам. — Ты дзеля нас аддаў усё жыцьцё і не збаяўся самое сьмерці, хаця ж і мог ухіліць яе. А мы, сьмертныя і вінаватыя на гэтай грэшнай зямлі, што мы зрабілі, каб іншым, блізкім і далёкім, сталася лепш у гэтым жыцьці і каб зямля змыла з сябе больш грахоў? Ці ж мы рабілі заўсёды паводле твайго запавету — любі бліжняга свайго, як сябе самога? Хіба ж мы заўсёды плацім чыстай любоўю за зьдзейсьненае нам і іншым зло? Твае чыны былі, ёсьць і вечна будуць для нас пуцяводнаю зоркаю, якую блізу што дзьве тысячы гадоў таму назад запаліў Вялікі Ўладар Сьвету і паслаў нам за настаўніка свайго Сына. А твае пакуты паказалі нам шлях да ачышчэньня і збаўленьня. О, ніхто ніколі яшчэ не зазнаў такіх выпрабаваньняў,

гэткіх кпінаў і пакутаў з боку грэшнага чалавека, дзеля выратаваньня і збаўленьня якога Ты быў пасланы ў гэты сьвет. Воіны цябе аплёўвалі, акідвалі брыдкімі словамі, калолі цернямі, крывавілі цябе пікамі, ўганялі цьвікі ў тваё жыватворчае цела. Ты паміраў, сьцякаючы крывёю пад выгукі зброду, які сам ня ведаў, што за злачынства ён чыніць. Але цаною сьмерці і пазьнейшага Ўваскрошаньня Ты выратаваў нас, у тым ліку і тваіх катаў, ад пагрозы духовае сьмерці. Ты сваёй сьмерцяй перамог сьмерць. І толькі дзякуючы твайму Божаму дзеяньню мы цяпер усе нясём у сабе надзею на Збаўленьне і магчымасьць Праведнага жыцьця і ў гэтым і ў іншым сьвеце. Даруй, Божа, нашыя недасканалыя справы, каб мы сталіся лепшымі паводле твайго Сьвятога Ўзору. Пашлі нам тваю ласку, дазволь тваёй духовай раскошы адведаць нас і збагаціць нас няўмiручымі каштоўнасьцямі любові, даравальнасьці і дабрыні», — шапталі Ўсеваладавы вусны. — «І чаму ж ня мне, грэшнаму, Бог паслаў такія выпрабаваньні? Але мусіць так трэ' было, бо толькі з тваёй духовай сілай адно і магчыма было ператварыць іх на дабро ўсім людзям. Адно ты мог сьмерцяй сьмерць пераадолець. Слава табе, Слава! Клянуся быць лепшым, каб спадобіцца табе. Амін!»

Раптам Усевалад адчуў у сабе нейкую надзвычайную палёгку. Быццам цяжкі камень адпаў з ягоных грудзей і ён пачуваў сябе нібыта вызваленым ад немачы. «Значыцца, Ісус Хрыстос пачуў мае словы», — з радасьцяй прамовіў сам сабе ён і пачаў зноў горача дзякаваць Збаўцу. За момант ён ужо быў у стане спыніць свае лементаваньні і крыху асушыць твар ад гарачых сьлёзаў. Ён узьняўся, пераджагнаўся яшчэ раз, пацалаваў напошку Камень Мірапамазаньня і акрылёны адыйшоў убок. І ўжо тую рэшту часу ў Храме Гасподнім ён пераканаўча адчуваў, што анёл-захавальнік распасьцер свае крылы над ім і ўжо не пакідаў яго ні на момант самотным.

УВАГА РЭДАКЦЫІ: Перапрашаем Аўтара нарысу «На Сьвятой Зямлі», Ул. Глыбіннага, што з віны рэдакцыі закраліся прыкрыя памылкі ў № 5 (116). Найбольш важныя папраўляем: «20-і гадовая», трэ чытаць – «12-ці гадовая» і слова «польскія» – чытаць «колькі» . . .

Гэтыя і ўсё іншыя ў выданьні кніжкаю будуць належна папраўлены. Фото, замешчаныя тут, дзеля Каляднага часу, (мы апeрадзілі тэкст нарысу) – уласнасьць Аўтара Ул. Глыбіннага.

---

# У Беларусі гінуць сьвятыні і іншыя помнікі культуры

З розных куткоў Беларусі даходзяць да нас разнастайнымі шляхамі вельмі сумныя весткі. Ня гледзячы на тое, што існуе ў БССР Таварыства Аховы Помнікаў культуры і гісторыі, гэтыя помнікі гінуць і то беспаваротна!

Аб гэтым трэба каб ведалі ня толькі беларусы, але й ўвесь культурны сьвет. Колькі было зроблена натугаў у розных дзяржавах, каб дапамагчы ратаваць сьвятыні ў Егіпце, у Грэцыі, у Італіі! Можна нават знайсьці і ў савецкай прэсе цікавыя зацемкі аб тым, як ЮНЭСКО ці іншыя арганізацыі намагаюцца ратаваць помнікі цывілізацыі ў розных краінах сьвету. Памятуюць чытачы моцны артыкул у савецкай прэсе пра тое, што ў Італіі недастаткова апякуюцца рознымі вартаснымі зборамі архіваў.

Магчыма, што гэта і праўда, але Савецкаму Саюзу яшчэ далёка да той стараннай клапатлівасьці аб сваіх старадаўнасьцях, якую можна бачыць у Італіі.

Падамо тут некалькі жудасных прыкладаў — (факты ўзятыя з савецкіх крыніцаў) — як савецкая ўлада ня толькі не ахоўвае помнікаў культуры, але сама іх нішчыць!

*

У Столінскім раёне знаходзіцца 19 драўляных помнікаў архітэктуры. Калі зацікавіўся імі адзін з савецкіх мастакоў, сьцьвердзіў вельмі дрэнна пастаўленую ахову іх і заявіў аб гэтым Н. Клімчуку, намесніку Старшыні райвыканкому, дык той сказаў, каб мастак вельмі ня турбаваўся, бо ўжо пастаноўлена ўсе тыя помнікі знесьці! («Чырвоная Змена», 9 верасьня 1969).

Які цынізм і якое варварства!

А колькі-ж яшчэ падобных фактаў можна прывесьці?!

У вёсцы Хомск Драгічынскага раёну раскінулі ў час суботніка царкву, помнік архітэктуры XVIII—XIX стагодзьдзя, пад прэтэкстам, што ён замінае клюбу.

«Ня так даўно знесьлі ўнікальны помнік драўлянай архітэктуры XVI стагодзьдзя — будынак былой царквы ў г. п. Шэрашава Пружанскага раёну. Чарга відаць за званіцай




1.Holy Trinity Church in Druja,BSSR,built by count L.Sapieha in 1632
2.This Church after 1955y.German Nazis took away historical bells in 1941.Russian Communists robed,desecrated and marty-red to death Rev.A.Kulesza,1941,Mnsr.F.Abrantovič,1942,and A.Cikota,1952.23 monks fromMarianens'Monastery enslaved.1945

XVII стагодзьдзя, якую цудам пакінулі», — піша тая самая «Чырвоная Змена».

Заглянем цяпер у балонкі часапісу «Немон» — (Ня «Нёман», бо журнал друкуецца ў расейскай мове) — за месяц кастрычнік гэтага году.

Там на бач. 152 і іншых знаходзім невялікі, але вельмі зьмястоўны ў сваім трагізме абраз:

У касьцеле сьв. Міхала ў Наваградку, які прастаяў на цэнтральнай плошчы блізу 250 гадоў, цяпер склад раённай каапэрацыі. Фрэскі абваліліся, павыбіваныя вітражы, багатая скульптура зьнішчана. Тут аўтар артыкулу ня мог паўстрымацца ад горкай гіроніі: «Ды й пашто яны тут? Бо-ж матацыклі, дзіцячыя возікі, крупы, водку, кансэрвы можна перахоўваць і без уплыву на іх мастацтва ! . .»

У Слоніме ў старадаўным касьцеле ўжо каля 10 гадоў трымаюць соль. Яна скамянела і даставаць яе трэба так, як у шахце. Дзякаваць Богу, не дагадаліся яшчэ ўзрываць дынамітам, а ўжываюць толькі пэрфаратары!

У касьцеле ў Міры адразу пасьля вайны таксама наладзілі склад, што трывае да сяньня. У падвале — сярод царкоўных рэчаў, у сырасьці і брудзе — валяліся мастацкія дзеравянныя скульптуры. Нядаўна «знайшлі іх» там і перавезьлі ў Беларускі Дзяржаўны музэй.

У Горадне, у манастыры законніцаў Брыгідак, які ёсьць помнікам абароннага тыпу з 1642 г., знаходзіцца абласны псыханэўралягічны дыспансер.

У Барысаглебскай царкве ў Навагрудку раённы архіў. Гінуць такжа апушчаныя Троіцкая царква ў Міры і касьцёл сьв. Язэпа ў Лідзе.

Барысаглебская царква ў Каложы — адзін з выдатнейшых помнікаў беларускай архітэктуры — апушчаная, а навокал бруд і пустазельле, таму цяжка да яе дастуціцца.

Па запушчаных сьценах замку ў Міры, а такжа па сьценах і вежах царквы ў Раўбічах альпіністы-студэнты наладжваюць сваё спартовае лажаньне, бо-ж у Беларусі няма гор, а ім трэба прыдбаць спрыт і зграбнасьць . . .

Марнеюць і гінуць касьцёлы і цэрквы ў Мсьціслаўлі (глядзі артыкул П. Місько: «Дрэмле памятка дзён, што ў нябыт уцяклі . . .», Літаратура і Мастацтва, 17 вер. 1968) у Магілёве, у Друі, у Гальшанах (замак і касьцёл з 1618 г., пераатвораны на склад, вокны пабітыя, запушчаны) . . . Ды хто іх усе паліцыць?!

*

Якраз шчасьліва супала, што ў № 20 (139), з 30. X. 1969 «Навінаў з Беларусі» разважаецца гэтая самая тэма «Аховы Помнікаў». Там пішуць: «Апошнім часам у друку БССР разгарнулася дыскусія над лёсам помнікаў гісторыі і культуры ў Беларусі . . .

«Характэрна, што пытаньне аховы помнікаў нацыянальнае культуры асабліва хвалюе беларускую моладзь. А калі за справу бярэцца маладое пакаленьне, гэта азначае, што справа гэтая вельмі актуальная ды што яна павінна быць і напэўна будзе вырашана пазытыўна . . . Трэба захаваць ад далейшага разбурэньня археалягічныя помнікі — старажытныя стаянкі, гарадзішчы, курганы, бо яны неабходныя для вывучэньня гісторыі нашага краю».

У канцы артыкулу даецца прамудрая заўвага: «Зьнішчэньне гісторыі народу — гэта крок да зьнішчэньня самога народу».

І характэрна, што ў Савецкім Саюзе праводзіцца вельмі старанна ахова помнікаў партыі і ейных інтарэсаў, але ці гэта азначае ахову культуры? Скарэй наадварот . . .

*

Усё тое, што мы тут падалі, ёсьць толькі малой часткай нішчаных нашых помнікаў культуры, але і гэтага дастаткова, каб беларусы ў вольным сьвеце выступілі публічна ў іхнай абароне.

Пакуль яшчэ варвары XX-га стагодзьдзя ня збурылі канчаткова нашых культурных і рэлігійных сьвятасьцяў, мы павінны зрабіць усё магчымае, каб абараніць тое, што яшчэ ўцалела. Трэба спадзявацца, што зразумеюць нас міжнародныя арганізацыі і захочуць дапамагчы.

---

*Я. Савіцкі*

# 3-яя вайна — і — канец сьвету

*(Працяг)*

Зусім неспадзявана здарылася, што прыйшоў у адведзіны да а. Рамана ягоны стары знаёмы а. Марцін Перабродзкі, які пасьля вайны першы раз дастаўся на Захад.

І якраз а. Марцін зусім паважна аднёсься да дыялёгу пра «3-юю Вайну»: ён чытаў увесь прабег тае дыскусіі і жадаў прыняць удзел у II-ой частцы дыялёгу.

а. РАМАН: — Я вельмі рады, што Вы ўвойдзеце ў складаньне II-ой часткі нашых размоваў, бо якраз гэтая частка значна труднейшая, бо і цяжэй будаваць новы мост, чым раскідаць стары.

а. МАРЦІН: — Гэта праўда, дык пачынайма! — Мне здаецца, што найперш належыць зрабіць некаторыя разгранічэньні: калі Вы згодзіцеся, дык я прапаную прыняць мой выпадковы плян, які ў мяне злажыўся ў казаньні да законьніцаў у Варшаве. Я-ж трапіў у іхны кляштар неспадзявана і да гэтае прамовы тады ня быў прыгатаваны, а проста неяк, не абдумаўшы, пачаў ім гаварыць . . .

а. РАМАН: — Але-ж няхай і так будзе! Можаце мне паўтарыць усё тое казаньне.

а. МАРЦІН: — Ну, добра! Да гэтага мушу далучыць, што гэтую тэму я пасьля апрацаваў у асобным артыкуле, якога частка друкавалася ў часапісе «Знак». А, хоць мой артыкул дайшоў да тых чытачоў толькі часткова, то ўсё-ж вызваў не малы водгалас: я атрымаў значны лік лістоў і ўбачыў, што чытачы былі значна ўзрушаны.

а. РАМАН: — О, калі так, дык тымбольш прашу мне яго паўтарыць!

а. МАРЦІН: — Я пачаў так: — Дарагія Сёстры! Мне ведама, што задача Вашага Закону ёсьць, між іншым, малітва за грэшнікаў. Гэта вельмі прыгожа і карысна. Дый ня толькі Вы, але ёсьць нямала і іншых законаў, а нават і прыватных людзей, якія ў такой інтэнцыі моляцца за грэшны сьвет.

Але ў такіх малітвах бываюць два падыходы адны ўважаюць наш сьвет падзеленым на дзьве няроўныя часткі. Адна — гэта ёсьць «Мы', а другая — «Яны». «Мы», значыць, справядлівыя, пабожныя і лепшыя людзі. А тыя «Яны», значыць, сапсаваныя і нягодныя, або матар'ялісты ці атэісты і г. д.

Другі падход: гэта малітва за грэшны сьвет, у які ўваходзяць наагул усе грэшныя людзі, значыць і мы самі ў гэтым ліку. І молімся не як духоўныя «дабрадзеі», але як браты і сёстры той сям'і, што называецца чалавецтвам і ў патрэбах усяго сьвету.

а. РАМАН: — Ого! Памойму гэта якраз самы трапны падыход і разуменьне грэшнага сьвету: мы ўсе належым да адной людзкой сям'і, якая цяпер апынулася ў вялікім няшчасьці, бо нам усім пагражае зьнішчэньне.

а. МАРЦІН: — Мы яшчэ пасьля вернемся да «грэшнікаў», але найперш мусім абаснаваць паняцьце чалавецтва і нашай з ім лучнасьці: мы не становім асобнага колца ці часткі ў вялізарнай машыне грамадзтва. І ня толькі мы ўлучаны ў сваю сям'ю ці ў сваю нацыю і ў сваю Царкву ці ў дзяржаву, але мы становім адну сям'ю ўсяго людзтва і ня ходзім «самапасам».

а. РАМАН: — Як гэта Вы разумееце?

а. МАРЦІН: — Не разумеем усяго ясна, калі ня зьвернем увагі на Самога Тварца людзкой сям'і.

І чалавецтва ёсьць адно у натуры, а шматлікае ў асобах. Між чалавекам і Богам толькі тая розьніца, што натура або прырода Божая ёсьць непадзельная, бо яна толькі духовая, а дух не складаецца з частак, таму духа нельга падзяліць, — дзеля таго Тры Божыя Асобы карыстаюць супольна з адной Божай прыроды — адным супольным розумам, адной воляй і сілай. — Таму Бог і ёсьць адзін, ня глядзячы на траістасьць Асобаў; чалавек-жа мае тую самую людзкую прыроду асобную ад другіх людзей, бо яго духовая частка прыроды злучана з матэрыяй, а матэрыю можна дзяліць на роўныя ці няроўныя часткі, як напрыклад цеста дзеліцца на абаранкі.

І прашу заўважыць, што кожны з нас зусім адзінакава называецца чалавекам — мужчыны ці жанчыны, малы ці стары, а ня могбы называцца чалавекам, каб ня меў той самай чалавечай прыроды. Кот ня ёсьць сабакам, бо мае не сабачую, але кацінную прыроду, асобна ад другіх.

Але, хоць кожны з людзей мае чалавечую прыроду — асобную ад другіх — то гэтая прырода ёсьць усё-ж толькі адна, бо інакш мы не разумелі-б адны другіх, каб кожны з нас меў іншы, а не чалавечы розум, волю ці пачуцьці.

А нават і нашае цела злеплена з аднаго «цеста»! Можна нават вока або нырку, нават сэрца аднаго чалавека прышчапіць другому. Аднак ужо сэрца сьвіньні, хоць і вельмі падобнае да людзкога, прышчапіць чалавеку будзе бадай немагчыма.

У гэтым вось і ёсьць найбольшае падабенства чалавека да Бога, хоць на гэта дасюль багасловы за мала зьвярталі ўвагу. Чалавек толькі таму і атрымаў матар'яльнае цела, каб мог быць чалавекам асобна ад другіх людзей і каб лучыўся з другімі людзьмі ня з прымусу, а з перакананьня і дабравольна, бачучы ў іх тую самую прыроду. Падумайце толькі, што было-б, каб хаця тры чалавекі мелі супольны розум, супольную волю і пачуцьці?! Аднак Бог хацеў ашчасьлівіць не траіх, але гэтулькі людзей, колькі самі гэтага захочуць, каб іх на сьвеце было.

а. РАМАН: — Калі загадваеце нам думаць, дык маем тут даволі матар'ялу да разважаньня. Але даскажыце нам, які вынік з вашае навукі для людзей, — інакш, што Бог вінаваты нам, а мы Богу?

а. МАРЦІН: — Бог ня толькі стварыў нас дзеля сваей хвалы і для службы, але Ён **любіць** сваё стварэньне, нават нягоднае: любіць іх і для іх уласнага шчасьця, зямнога і вечнага, «Як палюбіў Айцец Мяне, так Я палюбіў вас: аставайцеся ў любові маей!» — (Ян 15, 9). Гэтыя словы Хрыстос казаў да апосталаў перад сваей сьмерцяй і далей у малітве да Айца Свайго, гаворыць: «Ты паслаў Мяне і палюбіў іх, як палюбіў Мяне» (17, 25). Такой, значыць, любоўю Бог Айцец любіць людзей, як любіць Свайго Сына дый у гэтым і ёсьць Божая хвала і нашая служба, каб чалавек быў шчасьлівы.

І Хрыстос сваім прыкладам — ня толькі, калі абмываў ногі апосталам, але ўсім сваім жыцьцём, навукай і нарэшце — асуджаны, бічаваны, крыжаваны, памёршы і ўстаўшы з гробу — даказвае сваю бязьмерную любоў да ўсіх людзей, нават да самых найгоршых грэшнікаў! Паказаў гэта ў прыповесьці пра блуднага сына, калі, як міласэрны Бацька, выбягае на спатканьне, абыймае адступніка, гасьціць нявернага і вяртае ўсю маемасьць марнатраўцу. І калі Юдзе, свайму здрадніку, кажа: «Дружа, чаго ты прыйшоў?» І даў пацалаваць Сябе.

II

Людзі знайшліся перад Богам у лепшым палажэньні чым анёлы, бо анёлы — сапраўдныя слугі і не становяць сям'і, а толькі таварыства і грамадзтва.

А людзі маюць сапраўдны «абраз і падабенства» Божае — Сьвятой Тройцы — і ня толькі розумам і вольнай воляй, але — як Божыя дзеці — уваходзяць у самае блізкае радство з Богам — і праз спаўненьне Божае волі — становяцца прыяцелямі Бога. «Хто мае запаведзі мае і выконвае іх, той любіць Мяне; а таго, хто любіць Мяне, любіць будзе Айцец Мой і Я палюблю яго і зьяўлюся яму Сам». (Як. 14, 21).

«Я ўжо не называю вас слугамі . . . а Я назваў вас прыяцелямі, бо ўсё, што Я чуў ад Айца Майго, сказаў вам». (15, 15).

Такі ёсьць парадак Новага Запавету!

*

— Бог так стварыў людзей, што маюць бязупынна размнажацца, што аднак не аслабляе нашае сувязі і не разьбівае сям'і ўсяго людзтва. І гэта ёсьць закон натуры, бо мы выплываем з аднаго корэня, крыніцы, гнязда. Як крыніца лячэбнай вады, колькі вады

ні выпускае, то ўся вада мае тую самую гаючую сілу.

Так і людзі, пасьля вялізарных пераменаў — у-ва ўзросьце, у колеры скуры, у будове цела, а нават у псыхічных здольнасьцях, — усё-ж становяць адну супольную сям'ю. А дзіця з найніжэйшай культуры, з самых дзікіх плямёнаў, але ўзятае ў сям'ю найбольш цывілізаваную, даецца гадаваць і адукоўваць дый можа зрадніцца з самымі культурнымі людзьмі.

Затое самая здольная малпа, гадаваная з малога між людзьмі, не навучыцца — паміма найлепшых пэдагогаў — ані гаварыць, ані чытаць, ані нават рысаваць!

А тымчасам сваім інстынктам малпы перавышаюць людзей без параўнаньня: прачуваюць і тасуюцца да пагоды, прачуваюць катастрофы і ратуюцца загадзя, вынаходзяць лячэбныя травы... Маладая пчала адразу становіцца да работы ў вульлі і ведае, што і як трэба рабіць: а пасьля, як набярэ сілы, пускаецца навонках зьбіраць мёд, умее знайсьці пажыву і вярнуцца ў свой вулей здалёку, хоць вульлеў было-б сотні.

*

— У суадносінах між людзьмі Хрыстос у Новым Запавеце, хоць паўтарыў запаведзь Старога Закону — «любіць бліжняга, як самога сябе», але Сам асабіста перавысіў гэты закон і даў «новую запаведзь».

«Даю вам новае прыказаньне, каб вы любілі адзін аднаго; як Я палюбіў вас, так і вы любіце адзін аднаго».

Заўважце, а. Раман, што дасюль нашыя каталікі лічылі за найвышэйшую норму любові бліжняга, «як самога сябе».

а. РАМАН: — А, ну, так! Бо як-жа інакш?

а. МАРЦІН: — Тады мы яшчэ ня выйшлі з Старога Запавету! Заўважце, чаму Хрыстос паўтарае жыдам тое, што яны ўжо ведалі. Бо яны і гэтага не спаўнялі. Вучням-жа кажа: «Даю вам новае прыказаньне»...

Значыць, у Новым Хрыстос даў дастатковы доказ, што трэба пайсьці далей і глыбей...

а. РАМАН: — Ну-ну-ну! Як-жа «далей і глыбей»?

а. МАРЦІН: — Найперш пабачце, як паступаў Сам Госпад? Казаў: «Ніхто ня мае большай любові за тую, калі хто аддасьць душу сваю за сваіх прыяцеляў». (15, 13).

І якраз Сам Хрыстос меў яшчэ большую любоў, бо аддаў сваё жыцьцё за недругаў сваіх і наагул за свой грэшны народ, нават за ворагаў сваіх, фарызэяў і нават за ўвесь грэшны сьвет! І маліўся, як крыжавалі: «Ойча, адпусьці ім, бо ня ведаюць, што робяць». А, здаецца, трэ было маліцца: «Ойча, пакарай іх!»

І пасьля ўскрашэньня загадаў апосталам: «як зыйдзе на вас Дух Сьвяты, будзеце Мне сьведкамі і ў Ерусаліме, і ў-ва ўсей Юдэі й Самарыі, ды ажно на край зямлі». (Апост. Дзеі 1, 8).

Значыць, найперш нягодных жыдоў рабіў сваімі вернікамі, каб «ніхто ня згінуў, але меў вечнае жыцьцё».

Пабачце, як Госпад моліцца за вучняў, а гэта адносіцца і да ўсіх людзей. Ён казаў: «Не за іх толькі малю, але і за тых, што ўверылі ў Мяне па слову іх» (Ян 17, 20).

*

— Калі Хрыстос абмыў ногі вучням, казаў: «Калі Я, Госпад і Вучыцель, абмыў вам ногі, дык і вы павінны абмываць ногі адзін другому. Бо я даў вам прыклад, каб, як Я зрабіў вам, рабілі і вы... Калі гэтае ведаеце, шчасьлівыя вы, калі гэтак рабіць будзеце». (Ян 13, 14-17).

а. РАМАН: — Сапраўды, я і сам праканаўся на сабе і ў сваім доўгім жыцьці бачыў між людзьмі, што толькі пакора, ціхасьць, згода і любоў да другіх прыносіць шчасьце на зямлі.

Бачыў я, як у маей цёткі, асобы пабожнай, справядлівай і добрай гаспадыні, аніяк не гадаваліся дзеці! Ледзь даходзілі да 2-х—3-ох гадоў і... паміралі. І якая была прычына?

Як цяпер уважаю, ня было іншай прычыны, (бо і муж быў разумны ды працавіты), як толькі тое, што цётка была нецярплівая, злосьніца і сварлівая: значыць, гэта адбівалася на дзецях — аж асталася адна, пахаваўшы пяцёра дзетак і мужа.

а. МАРЦІН: — Чаму Хрыстос вымагае ня толькі любові бліжняга, але і «адрачэньня» ад сябе? Бо любоў да сябе самога зьяўляецца адзінай перашкодай знайсьці шчасьце. Таму патрэбны нам для шчасьця і ўбогасьць і пакуты, бо яны забіваюць у чалавека самалюбства-эгаізм. А любоў да нашага «Я» ёсьць адзінай прычынай нашага смутку, нуды, тугі і турботаў ды цярпеньняў. Спраўджваецца тое, што сказаў Хрыстос: «Хто ўзвышаецца, будзе паніжаны», і «Першыя будуць апошнімі» і «Калі не станеце, як дзеці, ня ўвойдзеце ў нябеснае валадарства».

а. РАМАН: — Сапраўды, коштам эгаізму расьце любоў. І наадварот.

а. МАРЦІН: — Так. І Хрыстос прыпомніў людзям Божы плян: Людзі створаны для шчасьця! Бо Сам Бог нічога не патрабуе: Ён вечна шчасьлівы ў Сьвятой Тройцы. І стварыў анёлаў для службы, каб у гэтым мелі шчасьце пры Ім і з Ім.

На вялікае дзіва і нашая «служба» накіравана да таго, каб мы былі шчасьлівыя!

Але ў гэтым і спакуса і нашая бяда-трагедыя, што мы няправільна тлумачым сваю службу Богу, быццам Бог Сабе патрабуе чагосьці ад нас, а мы ягоныя прыгоннікі-рабы, абцяжаныя такой «паншчынай» (?). Але-ж Бог, творачы чалавека, меў свой і наш «плян шчасьця». Калі тварыў нас «на свой абраз і сваё падабенства», дык улучаў нас ў сваё шчасьце, а не ў няволю службы.

Але што-ж? Налятае спакуса і чалавек, шукаючы лягчэйшага і лепшага шчасьця, упадае ў грэх і адхіляецца ці зусім адпадае ад Бога: тады ўжо сапраўды аддаецца ў няволю зла і ў самую абрыдлівую службу найніжэйшага гатунку. — Так ламаецца Божы плян шчасьця і брудзіцца ў чалавеку Божы абраз, быццам Бог не патрапіў ці не хацеў нам даць свайго шчасьця... Гэта вось і значыць, што Бог ня мае з нас свае хвалы.

І так стаўся першародны грэх, як правіна перад Богам і перад усім патомствам-людзтвам, а Божы плян нашыя першыя бацькі прамянялі на плян шатанскі. Чаму так? Бо шукалі сваей карысьці, сваей зьверхнасьці і шчасьця, а знайшлі пагібель... Запанавала самалюбнае «Я» — эгаізм.

*

— У Старым Законе Бог вымагаў прынамсі давесьці гэтае «Я» да выраўнаньня з другімі людзьмі і даў загад, каб «любіць бліжняга, як самога сябе». Але і гэтае паняцьце бліжняга жыды звузілі да граніцы свайго народу і краю. — І толькі Сын Божы, як стаў сынам Чалавечным, прыняўшы натуру чалавека — душу і цела — пашырыў любоў бліжняга да ўсяго чалавецтва і дамагаўся любові вышэйшай і глыбейшай, з ахвярай свайго «Я», з нясеньнем «штодзённага крыжа», з адрачэньнем сябе. І гэта ёсьць неабходная любоў бліжняга — больш, чым сябе самога. Гэта ёсьць адзіны спосаб змаганьня з эгаізмам.

а. РАМАН: — Вельмі і горача дзякую! Якраз гэта адпавядае нашым плянам, каб не дапусьціць да «3-яе Вайны і да Канца Сьвету»! — Бо цяпер эгаізм так узмогся, — (асабісты і грамадзкі, нацыянальны і дзяржаўны), — што пагражае — пры помачы атамнай зброі — зьнішчыць усё чалавецтва.

І яшчэ раз скажу: Або сьвет вернецца да Хрыста, перамагаючы свой эгаізм, або Хрыстос адвернецца ад Эўропы і ад Амэрыкі і дапусьціць засьлепленым вучоным-тэхнікам і высокім палітыкам пачаць «3-юю ВАЙНУ і прычыніць КАНЕЦ СЬВЕТУ»!..

---

*Ціт Бадзяка*

# Праўда ці хлусьня?

**(Пачатак глядзі ў папярэдніх нумарах)**

Як ужо мы бачылі, А. Красноў зусім не вытрымлівае крытыкі як «багаслоў-дагматык», аднак ён выступае яшчэ як мараліст. У сваім артыкуле ён піша:

«А цяпер паглядзім, ці ўвасабляе ў сабе Хрыстос усё самае лепшае, што закладзена ў маральнай прыродзе чалавека? Калі ўзяць матарыял толькі чатырох евангельляў Новага Запавету, то атрымаецца вельмі цікавая карціна: многія з павучанняў Хрыста супярэчаць самым элемэнтарным маральным нормам, якія выпрацавала чалавецтва на працягу тысячагоддзяў. Вось што гаворыць, напрыклад, сам Ісус пра тое, хто можа быць яго вучнем: „Калі хто прыходзіць да мяне, і не ўзненавідзіць бацьку свайго, і матку, і жонку, і дзяцей, і братоў, і сясьцёр, а пры тым і самога жыцця свайго, той не можа быць маім вучнем" (Лука, 14, 26). Не цяжка убачыць, што гэтае патрабаванне Хрыста з'яўляецца адкрытай прапагандай нянавісьці і не мае нічога агульнага з элемэнтарнымі нормамі чалавечай маралі».

Затрымаемся перш над гэтым адным найцяжэйшым закідам, бо Красноў іх выцягнуў за шмат як на адзін раз, відавочна кіруючыся верай у матэрыялістычны догмат аб пераходзе колькасьці ў якасьць. Мы ў гэты дагмат ня верым, бо ён нязгодны з розумам, які паказвае, што колькасьць ня толькі не павышае якасьці, але наадварот, выходзіць тандэта. Хлусьня, нават памножаная на праўду, ніколі не станецца праўдай, як нуль заўсёды будзе толькі нулём, хоць ты яго множ на мільярды.

Ці праўда, што Хрыстос вёў адкрытую прапаганду нянавісьці?..

Жывучы у вольным сьвеце, дзе кожны мае магчымасьць чытаць усё, што друкуецца, мы часта забываемся, што ёсьць на сьвеце у ХХ-м стагодзьдзі яшчэ край, дзе Эвангельле ня толькі не прадаецца свабодна, як у-ва ўсіх культурных краёх, але нават адбіраецца на граніцы. А якраз на гэтае няведаньне Эвангельля і разьлічана атэістычная хлусьня, быццам Хрыстос быў апосталам нянавісьці ня

меншым ад Маркса, ці Леніна. Прызнаеце, Чытачы, што каб паверыць у гэта, ня хопіць адных толькі навуковых тытулаў А. Краснова, а трэба яшчэ, каб ён падаў хоць адзін маленькі доказ.

Аднак «няма худа без дабра». Спроба прыпісаць Хрысту нешта зусім дзікое, чаго аніяк не дасца дапасаваць ані да Ягонае Асобы, ані да Ягонае навукі, дае нам нагоду і магчымасьць выясьніць сапраўднае значэньне гэтых добра ведамых кожнаму хрысьціяніну Хрыстовых слоў.

Красноў, або, лепш, ягоныя настаўнікі, якіх ён толькі паўтарае, прадбачылі гэты недавер чытачоў Эвангелля, што Хрыстос, які вучыў любові да ворагаў і на крыжы маліўся за тых, што яго крыжавалі: «Ойча ,адпусьці ім, бо ня ведаюць, што вытвараюць», адначасна займаўся «адкрытай прапагандай нянавісьці». Таму пасьля ўсіх сваіх закідаў, якімі мы займёмся асобна, Красноў гэтак канчае:

«Такіх павучаньняў Ісуса Хрыста, што зневажаюць элементарные нормы чалавечай маралі, адкрыта адмаўляюць любоў да бліжняга і нават самое жыцьцё, ня мала. Калі іх супаставіць з іншымі павучаннямі і пропаведзямі Хрыста нават у адным Эвангеллі, то адразу-ж выявіцца супярэчнасьць».

Гэта прызнанне бязбожніка даволі ясна сьведчыць, што ягоны закід, зроблены Хрысту, ёсьць у супярэчнасьці з Эвангеллем, нават адным! Калі-ж возьмем пад развагу, што да марксізму-ленінізму ня было ў сьвеце навукі, у якой адначасна прымаліся-б за праўду супярэчнасьці, трэба прызнаць, што і ў Эвангеллі ні магло быць супярэчнасьцяў, бо тады яго ня прынялі-б і ня трымаліся-б дзьве тысячы гадоў такія вялікія сьветлыя і лягічныя розумы, як Аўгустын, Тамаш з Аквіну, Ляйбніц, Дэкарт, Ньютон, Кант, Лосскі і Салаўёў, не гаворачы ўжо аб усіх бяз вынятку хрысьціянскіх багасловах. Хіба-ж не стане Красноў праконваць нас, што Хрыстос быў дыялектычным матарыялістам! А што ім ёсьць сам Красноў, гэта таксама не патрабуе доказу, бо-ж гэта і з'ўляецца прычынай, чаму ён усюды бачыць супярэчнасьці, нават там, дзе ніхто іх ня бачыць . . .

Кім ёсьць Хрыстос паводле Эвангелляў?

Хрыстос — гэта «Сын Бога Жывога» (Мат. 16, 16), маючы адну прыроду з Айцом: «Я і Айцец — адно», «Хто Мяне бачыць, бачыць і Айца». Ён аб'явіў нам, што Бог ёсьць любоў: «Я аб'явіў імя Тваё людзям» (Ян 17, 6). «Так Бог палюбіў сьвет, што Сына Свайго даў», якога меў толькі аднаго (Ян 3, 16).

Кожны, хто паступае дрэнна, ненавідзіць сьвятла і ня йдзець да сьвятла, каб ягоныя паступкі ня сталіся відочнымі іншым людзям (Ян 3, 20). Сам Красноў цытуе Матф. 5, 39: «Хто ўдарыць цябе ў правую шчаку, падстаў яму левую». Толькі ня ведама, чаму ён выводзіць з гэтых слоў, што «асабліва жорсткім і нецярпімым робіцца Ісус Хрыстос, калі звяртаецца да прыгнечаных. Ім рэкамендуецца толькі рахманнасьць, пакорнасьць, смірэнне». А дзе-ж нянавісьць? Дзе яна выступае ў Хрыста? Ці-ж Ён ня пытаўся ў сваіх ворагаў: «Хто з вас дакажа на Мне грэх?» Аб ім сказана толькі, што Ён прайшоў праз жыцьцё робячы усім дабро. Калі жыды хацелі Яго забіць каменьнямі, Ён запытаўся ў іх: «Шмат дабра Я зрабіў вам: за якое дабро вы хочаце Мяне забіць?» І яны трапна адказалі: «За тое, што ты, будучы чалавекам, робіш сябе Богам». (Ян 10, 33). Бо-ж гэта й было найвялікшае дабро дзеля людзей, што Бог стаўся чалавекам, каб ім памагчы. І за гэта дабро людзі асудзілі Яго на сьмерць. Ці гэта з нянавісьці Хрыстос пазваляе людзям зрабіць з Ім усё, што хацелі? Гэта пэўна-ж не памяшае хрысьціянам верыць, што Хрыстос добраахвотна пайшоў на сьмерць, каб людзі хоць раз убачылі ахвярную любоў, якая адна толькі можа ратаваць людзей ад згубы, калі ў яе павераць і прымуць яе як найвышэйшую норму маралі. «Загад новы даю вам, каб вы любілі так адзін другога, як Я палюбіў вас. Няма большае любасьці як тая, калі хто аддасьць жыцьцё сваё за сваіх прыяцеляў» (Ян 15, 12-13). Хрыстос не называе ворагамі людзей, якія Яго ненавідзяць, бо жыцьцё Сваё аддае і за іх. «Калі сьвет вас ненавідзіць, ведайце, што Мяне ён ненавідзіў перш чым вас» (Ян 15, 18). Юду, які прадаў Яго, Хрыстос заве прыяцелям. Хрыстос ніколі не назваў Сам нікога Сваім ворагам, бо памёр за ўсіх людзей. Аднак казаў, што людзі маюць і будуць мець ворагаў, бо яны самі нядобрыя. «Ніхто ня добры акрамя толькі аднаго Бога». (Матф. 19, 17). Найбольшымі ворагамі чалавека могуць стацца якраз тыя людзі, з якімі ён найбольш зжываецца жывучы пад адной страхой, калі яны стануць перашкаджаць чалавеку прымаць Божае змілаваньне і навуку Хрыстову, якая адна толькі можа зрабіць чалавека шчасьлівым. І тут мы сапраўды спатыкаемся з гэтак званымі «парадоксамі хрысьціянства». Калі-б марксісты ня былі засьлеплены нянавісьцяй да хрысьціянства, яны маглі-б у яго павучыцца якраз таго, як трэба паслугоўвацца прынцыпам «таесамасьці супрацьлегласьцяў» у іхняй дыялектыцы, каб не пападаць у сапраўдныя супярэчнасьці. Яны ненавідзяць хрысьціянства якраз за тое, што яно вучыць пашаны да чалавека нават у змаганьні з ім, бо адрозьнівае чалавека ад ягоных поглядаў, хоцьбы яны і былі фальшывыя і пазваляе ненавідзець толькі зло і змагацца з ім, самых жа злыдняў вучыць любіць і ратаваць. Марк-

сісты-ж не адрозьніваюць хворага ад хваробы і таму ненавідзяць заўсёды жывых людзей і дзе могуць стараюцца іх ліквідаваць толькі за тое, што тыя інакш думаюць, як яны. У Хрыста няма гэтае аднабокасьці і за гэта Яго ненавідзяць. Ён бярэ жыццё заўсягды у-ва ўсей яго паўнаце і таму суд Ягоны заўсёды справядлівы. Ён збаўляе, але толькі таго, хто хоча збавіцца, хоцьбы быў разбойнікам на крыжы. Каб хацеў, як Бог, Ён мае спосабы прымусіць кожнага, каб быў Яму паслушны, як паслушна спаўняе ўсе ягоныя законы неразумная прырода, аднак ня робіць гэтага, каб павучыць чалавека, якім вялікім дабром ёсьць ягоная свабода. Бо каб захаваць яе, згаджаецца на такія рэчы, як бунт і непаслухмянасьць, грэх і яго жудасныя вынікі. Адсюль даючы вучням сваім мір, якога сьвет даць не можа, адначасна папераджае іх, што гэтым самым Ён прыносіць і «меч». Бо можа здарыцца, што сын прыме мір, а бацка будзе бараніцца перад ім нават мячом. І наадварот, дзеці падымуць рукі на бацькоў і заб'юць іх». (Матф. 10, 21).

Павучэнні Хрыста запісаны ў мове, якая сяння ўжо не ўжываецца. Ніхто сяння ўжо так не гаворыць. Эвангельскія паняцьці не выражаюць сучасных ідэялаў. Факты і падзеі, аб якіх пішацца ў Эвангельлях, ня маюць чагосьці падобнага ў нашым сучасным жыцьці. Эвангельлі — бяз жывога царкоўнага навучання — гэта цела бяз душы, засохшая мумія з даўно мінуўшых часаў. Яшчэ св. Павал пісаў, што «літара забівае, а толькі дух дае жыццё». Хрыстос і Сам не напісаў нічога, і нікому не загадваў пісаць. Ён загадаў толькі навучаць увесь сьвет таго, чаго Сам навучаў, абяцаючы быць са сваімі вучнямі да канца сьвету. Толькі Ягоныя вучні, каб не забыцца аб рэчах важнейшых з гэтага навучання, запісалі яго, як умелі ў тагдышняй мове і ў выражэннях, якія тады значылі часам зусім другое, чым сяння значаць для нас. Само, напрыклад, слова «нянавісьць» у Эвангельлі мае часам іншае, вобразнае значэння, як гэта мы і бачым, напрыклад, у тэксце, да якога прычапіўся А. Красноў. Тутка слова: «узненавідзець» значыць усяго толькі, што любоў да Хрыста і вернасьць Ягоным загадам не павінны, калі-б гэта здарылася, астанаўлівацца нават перад разрывам з самай блізкай радней. У Біблії часта спатыкаецца слова «ненавідзець» у значэнні «любіць менш». Напрыклад, тэкст, які цытуе св. Павал у Пісьме да Рымлянаў: «як і напісана: Іакава Я палюбіў, а Ісава ўзненавідзіў» (Рым. 9, 13). Гэта кажа Бог, аб Каторым тая-ж Біблія сьведчыць, што няма аніводнай створанай Ім рэчы, якую-б Ён ненавідзіў. Тут яўна слова «ўзненавідзіў» ня ўжыта ў тым значэньні, ў якім мы яго сяньня ўжываем, хоць і яно, як бачым, было знанае ўжо тады, але яно тут ужыта ў значэнні меншай любасьці і абазначае, што Бог аказаў Ісаву меншую любоў, чымсьці ягонаму брату Іакаву, хоць той быў круцялём. Народ наш выражае гэту самую думку ў знаным сказе: «Няроўна Бог дзеліць».

Тыя самыя словы, якія А. Красноў выпісаў з Эвангеллі так: «Хто любіць бацьку або матку больш, чым Мяне, той Мяне няварты; і хто любіць сына або дачку больш, чым Мяне, тот Мяне ніварты; і хто не бярэ крыжа свайго і ня йдзе за ной, той ня ёсьць варты Мяне. Хто ратаваў сваё жыцьцё, згубіць яго: а хто загубіў сваё жыццё дзеля Мяне, той ратаваў яго».

Пакідаю самым Чытачам асудзіць, якую МАРАЛЬНУЮ вартасьць маюць нападкі бязбожніка А. Краснова на гістарычнага Хрыста, калі ён, не задаўшы сабе труду нават прачытаць уважна Эвангельлі, спасылацца на іх.

*(Далей будзе)*

---

# Беларускі Сацыяльны Клюб — Сакавік — ў Брадфардзе

З днём 21 верасьня 1969 году паўстала й зарганізавалася новая Інстытуцыя ў Брадфардзе (Англія) — Беларускі Сацыяльны Клюб, які носіць назоў — САКАВІК.

На першым ініцыятыўным Сходзе, скліканым Аддзелам ЗБВБ, які адбыўся ў нядзелю 21 верасьня сёлета ў памешканьні Беларускага Дому ў Брадфардзе, была выбраная Управа Клюбу — САКАВІК, у склад якое увайшлі: сп. Александар КАЛЬКО — старшыня, сп. Янка КАЛБАСА — сакратар, сп. Хведар ЛЕМЯШОНАК — скарбнік, сп. Бэнадыкт КЛЯЙНОЎ — сябра, сп. Аўген МУЧЫНСКІ — сябра.

Пералічаны склад сяброў Управы Клюбу — Сакавік — быў апрабаваны Галоўнаю Ўправаю Згуртаваньня Беларусаў у Вялікай Брытаніі й згодна статуту Клюбу, ёсьць адказнай адзінкай перад сябрамі Клюбу, Магістратам і Галоўнаю Ўправаю ЗБВБ.

Мэтаю Клюбу — Сакавік — ёсьць: дбаць пра культурныя і сацыяльныя патрэбы ягоных сяб-

роў, падтрымліваць сувязь з беларускімі і інша-нацыянальнымі арганізацыямі, зьбіраць грашо-выя сродкі для патрэбаў вышэй успамянутых, дыі мець мейсца для сяброў Клюбу, дзе змогуць сабрацца для таварыскай бяседы са сваімі га-сьцьмі.

Разьмеркаваўшы ўсе прадбачаныя выдаткі й працу пры Клюбе, ёсьць надзея, што Беларускі Клюб — Сакавік — у Брадфардзе будзе афі-цыяльна адчынены перад Калядамі 1969 году.

Сябрамі Беларускага Сацыяльнага Клюбу — Сакавік — могуць быць кожны мужчына і жан-чына пачынаючы ад 18-ці гадовага веку жыць-ця, якія пададуць заяву і аплацяць складку за адЗін год у вышыні два шылінгі і шэсьць пэн-саў.

*Янка КРУШЫНА*

## ДЛЯ БЕЛАРУСКАЙ БІБЛІЯТЭКІ
## І
## БЕЛАРУСКАГА МУЗЭЮ У ЛЁНДАНЕ
## КУПЛЯЕМ АСОБНЫ ДОМ

**Беларусы,**

**— у Вялікабрытаніі, Францыі, у Злучаных Штатах Амэрыкі, у Ка-надзе, Аўстраліі, Аргентыне, Бразыліі, у Нямеччыне, Бэльгіі і ў іншых краінах сьвету, — дапамажыце!**

**Патрэба свайго культурнага цэнтру адчувалася здаўна. Дагэтуль ягоную ролю выконвалі «Марыян Гаўз» і Беларуская школа Сьв. Кірылы Тураўскага. Аднак ужо насьпела патрэба асобнага будынку.**

**Беларуская Бібліятэка ў «Марыян Гаўз» налічвае больш чым 10 000 кніжак, сярод якіх ёсьць вельмі рэдкія і вельмі цэнныя. Беларускі Музэй, які цяпер займае адну залю, прыдбаў значную колькасьць экспанатаў. Паўстае таксама БЕЛАРУСКІ АРХІЎ, які ўжо налічвае шмат рукапісных і ўнікальных дакумэнтаў. На ўсё гэта патрэбна больш месца.**

**Таму пастаноўлена скарыстаць з нагоды і купіць дом побач са школай Сьв. Кірылы Тураўскага для Беларускай Бібліятэкі, Беларускага Музэю і Архіву, якія назавём імем нашага вялікага культурніка і сапраўднага беларускага волата, сына слаўнага Полацка, Доктара Францішка Скарыны.**

**Беларусы!**

**Мы надзейна чакаем Вашай дапамогі: мы верым у Вашае супрацоўніцтва, бо толькі шчырай канкрэтнай дзейнасьцю мы зможам апраўдаць свой патрыятызм і ўславіць нашу Бацькаўшчыну.**

**Чакаем ахвяр на Беларускую Бібліятэку і Беларускі Музэй Імя Доктара Францішка Скарыны ў Лёндане.**

**Ветліва просім прысылаць грошы на адрас:**
**The Byelorussian Library and Museum,**
**Marian House, Holden Avenue, London, N. 12.**

**Обэрон Гэрбэрт**
**Старшыня Ангельска-Беларускага Таварыства**

**Чэслаў Сіповіч**
**Апост. Візытатар Беларусаў**

**Павал Навара**
**Старшыня Згуртаваньня Беларусаў у Вялікабрытаніі**

**Лёндан, 1. XI. 1969.**

*а. Ф. Ж.*

# Моладзь ў Пікадыльлі

У цэнтры Лёндану пляц Піккадільлі Циркус стаўся ўлюблёным месцам для зборышчаў навачаснай моладзі, называнай «гіппіэс». Гэта ёсьць «наватвор» сучаснага жыцьця, можна назваць, «практычны нігілізм», які адкідае ўсялякую працу і ўсякі парадак. Такія ўжо ўславіліся і ў іншых краях, найбольш у Францыі і ў Амэрыцы. Яны або нічога ня робяць, або робяць штоколечы шкоднае, нават не дзеля «большае славы» ці ганьбы, але ня ведама дзеля чаго.

І ў апошнім часе можна бачыць грамады такой моладзі: цэлымі днямі сядзяць без работы, або ляжаць: разглядаюць публіку і думаюць абсалютна «ні аб чым»! І хлапцы і дзяўчаты выглядаюць неахайна: нямытыя, у скамечанай вопратцы, найчасьцей у стракатай... Хлапцы нястрыжаныя і нямоленыя, дзяўчаты адзетыя бязладна і ў выдатным «міні» з валасамі вісячымі вакол галавы. І ўсе яны выглядаюць як дзіклівыя нелюдкі — жыхары нейкае пушчы-пустыні, але прэзэнтуюць «навачасную» культуру ў самым рухлівым, цэнтральным месцы слаўнага Лёндану!

І вось туды накіравалася адна рэпартэрка часапісу «Католік Гэральд», каб з імі бліжэй пазнаёміцца. Каб лягчэй пранікнуць у іхні асяродак, яна падобна да іх адзелася. Як пасьля піша ў гэтым часапісе, удалося ёй пагутарыць з аднэй дзяўчынай, Енні, ў веку гадоў 16-ці. Свайго прозьвішча не сказала Енні, каб бацькі ня мелі прэтэнсіі.

— Як даўно ты ела? — пытаецца рэпартэрка.

— Дый учора!

— Можа зьясі сьнеданьне? —

— Гм. Можна, калі так хочаш... —

Пайшлі ў бар. Селі, але кельнэр адмовіўся ім служыць — дзеля іхняга выгляду. Што-ж рабіць? перайшлі ў другое месца. Там рэпартэрка зафундавала моцнае сьнеданьне, а пры ядзе ў той нігілісткі разьвязаўся язык. Прызналася, што ўцякла ад бацькоў, хоць тыя зусім ня бедныя: ейны бацька — ўрадовец вышэйшай рангі. Забрала з дому 10 фунтаў, а цяпер асталося 10 шылінгаў.

— Але-ж твае бацькі могуць непакоіцца...

— Ня думаю. А, зрэшта, што яны мне могуць зрабіць? Я-ж зусім пра гэта ня турбуюся.

— А мо' ты хацела-б працаваць?

— О, не, я не магу! Зрэшты, можа было-б добба?.. Дый не! Я лепш пайду да сябра: мы адно другому памагаем — аддаём апошнюю папяроску, калі бракуе.

— Але, скажы, чаму ты пайшла на такую манеру жыцьця? і ня прыгожа, і бяз грошы і без пасьцелі...

— Або я ведаю, чаму? Затое я тут пра нішто і пра нікога не клапачуся. Дый пакрысе прывыкаецца да гэтага: праўда, я тут бяз грошаў і бяз нічога, але я — вольная! І ніхто не загадвае, што трэба рабіць, а я сама магу рабіць усё, што мне падабаецца. Бо я не магу вытрымаць, калі мне кажуць а 9-ай гадзіне ісьці на работу, а ў 5-ць канчаць. Ці-ж гэта можна назваць жыцьцём?

— А каб пайсьці замуж?..

— О, не! Я не магу ісьці замуж: ці-ж гэта магчыма вязацца з адным чалавекам на ўсё жыцьцё? Хоць і хацела-б мець дзіця, але не магу згадзіцца страціць свабоду. Я хачу быць вольнай і прытым клапаціцца пра другіх.

На заўвагу, ці ня мыляецца яна, адказала наіўна шчыра: — Вось я гэтага ня ведаю!

Жалілася, што ніхто з грамадзтва ня хоча ім памагаць і зусім не разумее, што да помачы маюць права толькі няздольныя да працы.

Жыцьцёвая філязофія гэтае дзяўчынкі — гэта тыповае думаньне і пракананьне гэтых «гіппіс» — моладзі з Пікадыльлі і наагул значнай часткі моладзі цяперашняга сьвету. Маладое і старое пакаленьне ня ўмеюць паразумецца. Праўда, як сьвет існуе, заўсёды гэта бывала, але даўней працэс прагрэсу моладзі і кансэрватызм старых ня мелі такой вострай разбежнасьці, былі лагаднейшымі, тады адны з другіх дзівіліся, сьмяяліся, але ня горшыліся і не разрывалі адносінаў. Цяпер-жа ўмовы жыцьця мяняюцца ў маланкавым імпэце і людзі не пасьпяваюць дагаварыцца.

Штораз часьцей здараецца бачыць самотных бацькоў, ад якіх дзеці ня толькі адыйшлі, але і да іх ня прызнаюцца, а нават імі пагарджаюць. Паўстае пытаньне, як паменшыць такі разнабой між нашымі пакаленьнямі, асабліва ў эміграцыі? Тымбольш і горш, што бацькі не захацелі, а пасьля і не змаглі ўжо навучыць сваіх дзяцей сваей мовы, а дзеці выраслі чужымі ўжо ад калыскі, а вырасшы, пачалі гэтым ганарыцца, пагарджаючы сваім паходжаньнем...

На зьезьдзе псыхіятраў пару месяцаў таму ў Лёндане была закранута праблема бунту маладых. Дыстанс між маладымі і старымі яны назвалі «паражнечай» у пакаленьнях. Было пададзена нямала фактараў, як уфармаваўся стыль жыцьця, абапёртага на самалюбстве і на грамаджэньні багацьця для сябе, не зважаючы на бядоту. А моладзь якраз больш адчувае сацыяльную несправядлівасьць: з гэтага паўстае

недавер да старшых і да аўтарытэту. Тым больш, калі возьмем на ўвагу пережытыя войны і рэвалюцыі, нішчэньне людзей у фашызме і камуне; а цяпер Усход і Захад так зброяцца, што пагражаюць 3-яй сусьветнай вайной, а — пры атамнай небасьпецы — і зьнішчэнем чалавецтва. Такім способам маладое пакаленьне мае доказ камплётнага банкруцтва старшага пакаленьня, якое кіруе сьветам — магчыма — на згубу чалавека.

Іншыя бачаць прычыну бунту маладых у цяперашнім спосабе навучаньня на ўнівэрсытэтах і ў ніжэйшых школах. Пераважае спэцыялізацыя, якая мала надаецца для рэальнага жыцьця і моладзь шукае рэкампэнсаты ў бунце, каб вырвацца з цеснае грамадзкае клеткі старога народу.

Галоўны дакладчык Др. Р. Дрэйкурс падае некаторыя думкі адносна выхаваньня. Даўней, кажа, часта тасавалі стратэгію нагародаў і кары: гэта яшчэ было магчыма, калі ўлада больш мела павагі. А сяньня, у эпоху дэмакратызму, маладыя ўважаюць кару за штосьці трывіяльнае і пазытыўна яе прыймаюць тыя, якім якраз яе ня трэба. А нагароду ўважаюць за штосьці належнае кажнаму, не зважаючы на ягоную вартасьць і заслугу. Кажны ўважае сябе за выдатнага і разумнага, хоць такіх ня так шмат на сьвеце. Дый кажны хоча мець права голасу ў грамадзкім жыцьці, бо гэтага вымагае дэмакратыя, аднак не кажны надаецца да кіраваньня другімі.

Значыць, трэба тварыць для моладзі такія ўмовы, каб само жыцьцё змушала яе працаваць і знайсьці сабе належнае месца ў грамадзтве. І трэба ўводзіць маладых у жыцьцё паступова, каб перадаваць ім уладу, не зракаючыся самым адразу ўсяго. Так няпрыкметна будзе ў маладых абуджацца адказнасьць і зразуменьне абавязкаў і патрэбаў сваіх і чужых. І ў выхаваньні належыць заўсёды прывучаць да ветлівасьці і дабразычлівасьці з сілай і рашучасьцю ў вымогах.

І нельга забывацца, што толькі рэлігійнае жыцьцё самых бацькоў і такое выхаваньне моладзі паможа ўзгадаваць моладзь на пацеху і помач грамадзтву і тым-жа бацькам.

---

## *З царкоўнага жыцьця*

РЫМ-ВАТЫКАН. Ад 11-га да 25 кастрычніка ў Рыме адбываўся Сынод Каталіцкае Царквы: гэта быццам працяг Ватыканскага Сабору ў мініятуры. Скліканы былі біскупы, прадстаўнікі краёвых камісіяў і часткова назначаныя Папам кардыналы і біскупы з Ватыканскае Курыі — усяго 146 асобаў.

Хоць ніякія пастановы на Сынодзе ня вырашаліся, але ўсё-ж ён мае надта важнае значэньне: на ім разважаліся справы кіравецтва ўсею Царквою. Біскупы ёсьць адказныя ня толькі за сваю кажны дыяцэзію, але і за ўсю Царкву, як да гэтага былі пакліканы апосталы: гэта была ясная воля Самога Хрыста і такое жаданьне выказываў II-і Ватыканскі Сабор.

1) У галасаваньні бальшынёй галасоў была выказана воля Сыноду, каб Папа перад выданьнем важнейшых дакрэтаў перш прадстаўляў квэстыю канфэрэнцыям біскупаў.

2) Кампэтэнцыі кажнага біскупа і краёвых канфэрэнцыяў павінны быць ясна разграніченыя.

3) Сама структура Сыноду павінна быць зрэвідавана і датасавана да цяперашніх патрэбаў Царквы.

4) Сынод павінен стацца Калегіяй біскупаў пры Папе і дзеля таго сэкрэтарыят Сыноду павінен быць сталы і пашыраны, каб быць лучнікам між Папай і біскупамі.

5) Сынод мае зьбірацца стала, прынамсі раз на два гады.

6) Канфэрэнцыі біскупаў павінны мець права падаваць справы на Сынод.

7) Папа перад выдаваньнем загадаў для нейкай дыяцэзіі мае перш паведаміць яе біскупа.

Папа ўвесь час быў прысутны на Сынодзе, але голасу ня браў і ў дыскусіі не мяшаўся. На заканчэньне выявіў упэўненасьць, што Сынод будзе сапраўдным ягоным супрацоўнікам у кіравецтве Царквою і што ня толькі ня прычыніцца да памяншэньня яго аўтарытэту, але будзе падтрымліваць супольнасьць і арганічную супрацу. Адносна сябе Папа сказаў, што зробіць усё, каб споўніць жаданьне біскупаў, але не зракаецца спэцыфічных абавязкаў і адказнасьці, якія накладае на яго харызмат Прымату, якім Сам Хрыстос абдарыў сьв. Пятра, якога Папа зьяўляецца, хоць нягодным, але сапраўдным Наступнікам. І Папа мае верна выконваць гэты Прымат — ня столькі з права, але з абавязку.

«Папа, казаў Павал VI-ы, павінен быць сэрцам Царквы і спрычыняцца, каб любоў цыркулявала па ейным арганізьме: выходзіла з сэрца і верталася да сэрца. Папа мае быць цэнтрам любові, прыймаючы ўсіх і кахаючы ўсіх, як кажа сьв. Амброжы: Хрыстос пакінуў нам Пятра — слугу сваей любові».

Папа гатовы разглядаць усялякія жаданьні лякальных Цэркваў, але яны не павінны парушаць веры, маральнасьці, падставовых спраў датычна Сакрамантаў, кананічнага права і сьв.

Літургіі, бо гэтыя рэчы існуюць для захаваньня адзінства ў Царкве.

І Папа згадзіўся на тое, каб Сынод зьбіраўся раз у два гады.

*

З прамоваў біскупаў і самога Папы можна зразумець, што ў Царкве пачынаецца новы парадак жыцьця і адносінаў. Біскупы ня толькі на Саборах, але стала — ў кантакце і пад кіравецтвам Папы — будуць абмяркоўваць і вырашаць справы Царквы. А рэзалюцыі Сыноду будуць паступова ўваходзіць у жыцьцё.

На наступным Сынодзе прадбачыцца справа выбару Папы біскупамі, замест дасюлешняга парадку, што выбіралі Папу толькі кардыналы. Біскупаў будуць выбіраць сьвятары і народ.

Перад Сынодам некаторыя баяліся, што ён створыць дысгармонію і цяжкую сытуацыю для Папы: прадбачылі змаганьне між біскупамі і Папай, але нічога такога не здарылася. Нават дзівіліся, што Папа выказаў гэтулькі ўмеласьці і любові, што наступіла яшчэ большае збліжэньне, чым было перш. Папа жадаў, каб біскупы нічога не таілі, а гаварылі ўсё, чаго вымагае дабро Царквы.

Біскупы Заходняе Эўропы і Паўночнае Амэрыкі больш падтрымлівалі ідэю калегіяльнасьці ў Царкве, а біскупы місыйныя і з Эўропы Ўсходняе і Паўдзённае Амэрыкі больш стаялі за кампэтэнцыю Папы. Аднак да ніякага непаразуменьня ня прыходзіла. І многа хто заўважаў, што на гэтым Сынодзе выразна вычуваўся ўплыў Сьвятога Духа.

*

РЫМ. ЭМІГРАНТЫ: ПАВАЛ VI-ы ў пачатку верасьня выдаў свой загад (Мото проприё) «Пастаральная Апека над Эмігрантамі».

Ужо ў 1952 годзе Папа Пій XII загадаў біскупам апекавацца ў душпастырстве эмігрантамі: старацца для іх сьвятароў, якія павінны разумець адпаведную мову эмігрантаў і ў гэтай мове адпраўляць для іх набажэнства, прынамсі, каб належна абслужыць эміграцыю ў першым пакаленьні.

А Павал VI-ы цяпер дамагаецца, каб эмігранты наагул не цярпелі ніякага нацыянальнага націску ў Царкве: кожны чалавек мае права ўжываньня сваей мовы у сьвятынях бяз ніякага абмежаваньня і эмігрантам прызнаецца права на родную мову датуль, пакуль самі гэтага жадаць будуць. Папа загадвае біскупам тварыць для эміграцыі асобныя парахвіі і сьвятары-эмігранты павінны быць зраўнаныя ў сваей уладзе з мясцовым духавенствам.

З гэтага бачым, што Царква шырока разумее нацыянальныя патрэбы людзей, каб ніхто ня быў пакрыўджаны ў сваей нацыянальнай культуры і роднай мове пры аказіі рэлігійнае абслугі. А калі ўсё-ж прычыняецца дзеколечы каму крыўда, дык гэта з віны шавінізму мясцовага духавенства: на жаль, гэта здараецца і цяпер. Дый найбольш сумна, што беларусы самі не шануюць і не бароняць сваей мовы на эміграцыі і не бароняць сябе ад чужацкіх прэтэнсіяў у сьвятынях.

Папа дае сур'ёзны загад місіянэрам вучыцца мовы тых людзей, да якіх едуць з Божым словам і рупіцца, каб кажны народ меў сваё духавенства. Каталіцкая Царква ведае патрэбу беларускае мовы ў рэлігійным жыцьці і яе дамагаецца.

У 1897 г. Папа Лявон XIII праз свайго сакратара Рамполлю паведаміў арцыбіскупа Магілёўскага Сымона, што сьвятары могуць уводзіць беларускую мову ў сьвятынях. Аднак тут супраціўляўся царскі ўрад, які лепш згаджаўся на польскую мову ў касьцёлах, чым на беларускую. Затое ўрад хацеў увесьці ў касьцёлах расейскую мову, а польскае духавенства старалася ўтрымаць польскую мову і так перажывала націск з двух бакоў нашае няшчасная Беларусь!

Падобную палітыку ў Беларусі праводзяць і камуністы да сяньняшняга дня!

У 1917 г. арцыбіскуп Эдвард Ропп, калі беларускія сьвятары пыталіся, ці можна гаварыць казаньні па беларуску, адказаў, (не зважаючы на пратэсты польскіх ксяндзоў), што «ня толькі можна, але і п а т р э б н а !»

Сам біскуп Ропп — (з нямецкіх баронаў у Латвіі) — быў чалавекам справядлівым і разумеў патрэбы нашага народу. Таксама пасьля Роппа біскуп Юры Матулевіч (летувіс) стараўся памагчы беларусам, але ня мог нічога большага зрабіць, бо быў акружаны вышэйшым духавенствам — канонікамі, прелатамі, прафэсарамі — польскімі шавіністамі, якія ўпарта цьвердзілі, што кажны каталік мусіць быць палякам.

Біскуп З. Лазінскі 6. XII. 1918, будучы Мінскім біскупам, прачытаў Эвангельле і сказаў навуку ў катэдры па беларуску, чым узбудзіў вялікую радасьць у нашым народзе. На жаль, пасьля, будучы Пінскім біскупам, пакрысе пачаў здаваць пазыцыі і — пад ціскам польскае адміністрацыі — занядбаў беларусаў і іхнія патрэбы ў сваей дыяцэзіі.

*

ВАТЫКАН: Заіснавала тут Багаслоўская Камісія Каталіцка-Англіканская, каб прадаўжаць студыі ў спрэчных поглядах між гэтымі Цэрквамі і шукаць рашэньня практычных праблемаў, як мяшаныя сужэнствы, рэлігійнае выхаваньне дзяцей і помач бедным. Усё гэта прычыняецца да збліжэньня Цэркваў і да спадзяванага адзінства веры.

ВАТЫКАН: Папа горача заклікаў каталікоў, каб у месяцы кастрычніку ахвяравалі свае ражанцы ў інтэнцыі супакою ў сьвеце. Паміма нязначнага прагрэсу ў прымірэньні сьвету, усё яшчэ існуюць гнёзды сварак і войнаў, вынішчаюцца краі і народы, паўстаюць новыя закалоты, якія пагражаюць — не дай, Божа! — 3-яй вайной і канцом культуры. І што найбольш сумна, кажа Папа, што людзі, якія прызнаюцца да Хрыста і ягонай навукі, — Эвангельля любові, — становяцца ворагамі адны другіх.

Нядаўна Павал VI-ы прыняў на аўдыенцыі 500 юрыстаў, якія ладзілі Кангрэс крымінальнага права. У прамове Папа падкрэсьліў зьявішча маральнай дэкадэнцыі, якая лучыцца з хуткім прагрэсам тэхнікі. «Ці-ж ня бачыце, кажа, жахлівага ўзросту крымінальнага злачынства, якое йдзе на перадзе сучаснай цывілізацыі?»

І яшчэ — на агульнай аўдыенцыі — Папа казаў, што заняпад сучаснага чалавецтва пагражае «азьвярэньнем і варварствам». А распуста, разбуджаная парнаграфіяй і наркаманіяй, спрыняецца да ўзвышэньня пачуцёвай пахаці, затуманьвае розум, а нават фальшуе сэнс Божага Слова. Юрлівасьць і распуста атакуе сям'ю, школу і адпачынак, паніжаючы чалавечую годнасьць.

Трэба заўважыць, што Папа ўсё часьцей асьцерагае сучаснае людзтво перад вынікамі цяперашняга неспакою і маральнага заняпаду. На вялікі жаль, ягоны голас гучыць на падабенства голасу, "гукаючага на пустыні», якім клікаў Ян Хрысьціцель жыдоўскі народ да пакуты, але мала яго слухалі . . .

*

ВАТЫКАН: Нядаўна наведаў Папу Абба Эбан, міністар Ізраіля замежных справаў. Павал VI абяцаў Ізралію сваю супрацу дзеля супакою на Блізкім Усходзе. У справе хрысьціянскіх і магамэтанскіх Сьвятых Помнікаў і ў справе ўцекачоў дый адзначыў асаблівы характар гораду Ерусаліму, які ўсе называюць «Сьвятым», дык цяперашні Ізраіль, які фактычна валодае Палестынай, павінен пагадзіць інтарэсы ўсіх нацыяў і рэлігіяў, каб ніхто не адчуваў крыўды.

Гэта была першая візыта ізраільскага міністра ў Рымскага Папы і мае яна вельмі важнае значэньня для таго, каб залагодзіць востры канфлікт Ізраіля з арабамі і абараніць пакрыўджаных арабскіх уцекачоў. Таму Папа зьвяртаўся з асобным лістом да караля Марока Гассана, калі там адбываўся зьезд арабскіх верхаводаў: Павал VI падаваў плян асобнага статуту для гораду Ерусаліму.

*

КАНАДА: Гады два таму кардынал Лежэр адмовіўся ад пасаду арцыбіскупа ў Монтрэалі, каб працаваць у Афрыцы сярод пракажоных. Цяпер прыбыў ізноў у Канаду, каб сабраць больш сродкаў — ахвяраў для разбудовы розных інстытуцыяў — шпіталяў, амбуляторыяў і інш. у Афрыцы, спэцыяльна для пракажоных. Канадыйцы паставіліся з вялікай сымпатыяй да кардынала, цэнячы ягоную ахвярную місію. — Вітаючы прысутных на лётнішчы ў Монтрэалі, кард. казаў: «Жыцьцё місіянэра трэба пачынаць, маючы 25 гадоў. Праз гэтыя два гады я працаваў як малады місіянэр. Калі параўнаю сваё жыцьцё ў Монтрэалі да цяперашняга, дык здаецца, што я да таго быў у вас на канікулах».

*

АНГЛІЯ: У некаторых шпіталях існуе тут «Таварыства Самарытанаў», да яго належаць пераважна працаўнікі шпіталяў. Іх мэта — ратаваць людзей у дэпрэсіі і дэспэрацыі ад самагубства: уплыў гэтае арганізацыі ў Англіі вельмі значны і карысны для няшчасных людзей — так, што Таварыства карыстаецца пашанай грамадзтва і разьвівае сваю дзейнасьць.

Др. Дамініян сьцьвердзіў, што самагубтва бывае вынікам нястачы пашаны да жыцьця. Нямала выпадкаў самагубства здараецца ў ненармальных сем'ях, у разьбітых сужэнствах, у асабістых непаводзінах і інш., крытычных перажываньнях, а таксама з дэправацыі абычаяў і з нездаровага пачуцьця самаважнасьці, мэгалёманіі . . .

*

ЧЭХАСЛАВАЦЫЯ: Цяпер камуна спыніла рэгабілітацыю катал. духавенства, якое было несправядліва засуджана і каранае да часоў Дубчэка. З упадкам Дубчэка парадак жыцьця вяртаецца стары і уціск рэлігіі дый прасьлед Царквы аднаўляюцца. Ці Сталін мае ўстаць з магілы?

*

ІТАЛІЯ—РЫМ: 25-га верасьня Папа пасьвяціў у Рыме вялікую новую царкву Сьв. Прамудрасьці-Сафіі, якую ўкраінцы пабудавалі блізка гораду. Новая сьвятыня пабудавана паводле пляна ў старой царквы сьв. Сафіі ў Кіеве з 16-га стаг. Папа вельмі хваліў украінцаў за іх любоў да культурнай рэлігійнай традыцыі. Успомніў пра сьв. Папу Клімэнта, вучня сьв. Паўла апостала і ўспамінаў сьв. Кірыла і Мяфода, што яны былі блізкімі той самай Царкве, да якой належаць украінцы. Адзначыў таксама, што Апостальскі Пасад заўсёды прызнаваў і сьцярог ненарушальнасьць Усходніх Цэркваў, што былі ў лучнасьці з Рымам.

Кардыналу Сьліпому Папа горача падзякаваў за ягоную нястомную працу і прыпомніў радасьць з ягонага павароту з доўгай савецкай няволі. Назваў яго годным наступнікам выдатнага мітрапаліта Андрэя Шэптыцкага.

## З беларускага жыцьця

### НОВЫ НУМАР «ЖУРНАЛУ БЕЛАРУСКІХ СТУДЫЯЎ»

Выйшаў з друку трэці нумар «Журналу беларускіх студыяў», выдаванага ў ангельскай мове Ангельска-Беларускім Таварыствам у Лёндане.

У нумары замешчаны наступныя артыкулы: Гравюры Францішка Скарыны (Г. Піхура); Гістарычная геаграфія лясоў Беларусі ў XVI стаг. (Р. А. Фрэнч); Наша Ніва (А. Надсон); Акадэмік Я. Ф. Карскі (А. Б. МкМільлін); Граматычныя зьмены ў сучаснай беларускай мове (праф. Р. Дж. А. дэ Брэй); Гістарычны канспэкт крыніц беларускага права (С. Савіцкі). Акрамя гэтага нумар мае багатую сэкцыю рэцэнзіяў і хроніку беларускага жыцьця.

Хоць нумар выйшаў з даволі вялікім спазьненьнем, аднак якасьцю матар'ялу і аб'ёмам (120 бачынак) ён сябе апраўдаў. Асабліва прыемна, што колькасьць друкарскіх памылак значна паменьшала.

Цана нумару 10 шылінгаў. Журнал можна выпісваць або непасрэдна з рэдакцыі (230 Strand, London, W. C. 2) або цераз «Божым Шляхам».

### КУРС БЕЛАРУСАВЕДЫ Ў ЛЁНДАНЕ

У аўторак 11-га лістапада сп. А. Б. МкМільлін, выкладчык Школы Славянскіх Моў на Лёнданскім Унівэрсытэце, прачытаў лекцыю пра Яна Чачота і такім чынам адчыніў чацьвёрты курс беларусаведы, зарганізаваны Ангельска-Беларускім Таварыствам у Лёндане. На лекцыі было прысутных каля 30 слухачоў.

У праграме курсу прадбачаюцца яшчэ наступныя лекцыі:

2-га сьнежня — а. А. Надсон: «Беларускія летапісы 15—16 стагодзьдзяў».

3-га лютага — Др. Р. А. Фрэнч (Лёнданскі унівэрсытэт): «Уплыў чалавека на краявід Беларусі».

3-га сакавіка — Я. Д. Уладыка Ч. Сіповіч: «Узьнікненьне і раньняя гісторыя Мінскай каталіцкай дыяцэзіі (1798—1869)».

7-га красавіка — Г. Пікарда: «Беларускае абычаёвае права ў галіне спадкаемства».

5-га траўня — Дж. Дынглей (Рэдынгскі унівэрсытэт): «Філён Кміта-Чарнабыльскі (1530—1587) і ягоныя Отпісы».

Лекцыі (у ангельскай мове) адбываюцца ў гэтым годзе ў памешканьні Таварыства Антыквараў (The Society of Antiquaries, Burlington House, Piccadilly, London, W. 1.). Пачатак лекцыяў у гадз. 6.30 вечарам. Уступ свабодны для ўсіх.

*

### КНІЖКА а. Я. ГЭРМАНОВІЧА ПА ІТАЛЬЯНСКУ

Ведамая кніжка а. Я. Г.: «Кітай—Сібір—Масква», якая выйшла ў беларускай мове ў 1962 г., ў гэтым годзе зьявілася па італьянску: «Cina—Siberia—Mosca» — Marx e Lenin in realta.

Мова беззаганная, вонкавы выгляд вельмі прыгожы. Трэба спадзявацца, што гэтая кніжка зробіць у Італіі значны ўплыў на грамадзтва: там камуністычная партыя зьяўляецца адной з найбольшых у сьвеце і да сяньня людзі мала разумеюць, што сапраўды значыць у практыцы тэорыя Маркса і Леніна.

Заўважым, што ўспомненая кніжка ўжо перакладзена на мову польскую і літоўскую дый закончаны пераклад на ангельскую (гэтая яшчэ не надрукавана).

Кніжку можна набыць або ў яе аўтара (адрас «Божым Шляхам»), або ў італьянскім выдавецтве: Edizioni Pauline, Via Aless. Severo 56, Roma, Italia.

---

## З лістоў у рэдакцыю

### АМЭРЫКА—МАССАЧУЗЭТ—НОРВУД

Месяц ліпень у нас ёсьць месяцам адпачынку: фабрыкі спыняюць рух, каб правесьці рамонт: астаюцца толькі мэханікі і некаторыя кіраўнікі (босы). Іншыя работнікі маюць аплачаныя вакацыі і разьяжджаюцца, хто куды . . . Некаторыя клапоцяцца ля сваіх хатаў або й проста адпачываюць.

У першых гадах я кідаўся на дадатковыя работы, каб мець што паслаць родным на Бацькаўшчыну — аж ужо пачалі хваліцца, што ім ня дрэнна жывецца, дык і я пачаў выяжджаць, то каб пабачыць старых знаёмых ці прыяцеляў, запазнацца з іншымі, што распаўзьліся на эміграцыі. Але сёлета дзеля важных абставінаў я мусіў астацца дома, аднак усё-ж, хоць на коратка, паехаў у Дэтроіт і то насьпех — самалётам.

Пабыўка ў Дэтроіце была карысная і прыемная, бо трапіў там на вясельле (беларускае!) і спаткаўся з сваімі. Ну, за 20 гадоў жыцьця на чужыне мы так зьмяніліся, што ледзь магчыма было пазнаваць адным другіх!

Падыходзіць прыяцель з нашай маладосьці і пытае: — Пазнаеш? — А я мяркую, хто-ж ён? Бо ў мяне плеш на галаве, а ў яго толькі вузкі абруч сівых валасаў каля каўняра . . .

Ён кажа: — Я-ж Ігнась. А вось мая дачушка, Ірачка! Ну, прывітайся з дзядзькам! — кажа ён. — Я-ж, кажа, вельмі цешуся тым, што яе маю — пацеху майго адзінокага жыцьця.

Калі-ж Ігнась адыйшоў да другіх, Ірачка ізноў пры мне і кажа: — Мой татка — добры, але . . . — Недасказала і слёзы пакаціліся, дый яна на хвілінку замоўкла і глыбока ўздыхнула. Пасьля пытае: — Якая высокая была мая мама? І якога колеру былі ў яе валасы? Ці я падобная да мамы? А тата і мама ці жылі згодна? Я ведаю, што тата жалее маму, бо-ж другі раз не жаніўся, хоць яму і вельмі цяжка было мяне гадаваць. А я надта ўдзячная тату, што пасылаў мяне ў школу: цяпер маю добрую працу і павінна даглядаць ягонай старасьці.

Я-ж хацеў пацешыць дзяўчыну, але ў мяне не хапала слоў — так быў узрушаны, што ледзь сам не заплакаў, успомніўшы ейны дзіцячы час. Не бачыў яе дасюль, такой дарослай, стройнай і прыгожай, а прытым адукаванай, якая цяпер займае пачэснае месца ў вялізным бізнэсе; але мне ўспаміналася малая, загубленая і галодная, якую дваццаць гадоў таму мая жонка прыняла да сябе — памыла яе, накарміла і палажыла ў цёплую пасьцель. Якраз у той дзень ейная мама памерла. Пахавалі яе ў Нямеччыне і гэта дадавала яшчэ больш жалю Ірачцы, што не магла наведаць нават і магілы сваей маткі!

— Некаторым дзецям даецца шчасьце, але яны ня ўмеюць зразумець яго.

Нямала хлопцаў і дзяўчат, якія маюць бацькоў, пакідаюць іх і самі жывуць абыяк. Як была я ў навуцы, дык бачыла трагедыю такіх бацькоў, якіх дзеці кідалі навуку ды прылучаліся да бітнікаў, якіх цяпер называюць «гіппі». І «гіппі» прычыняюць шмат шкоды: апрача таго, што самі брудныя, прымаюць у сваю сьвіту моладзь, якая ня скончыла сярэдняй школы, дык жыцьцё іх бывае зусім зламанае . . .

Тут Ірачка шыбка пабегла глядзець свайго татку, а я знаёміўся з нашымі эмігрантамі з пад Віцебску, Менску, Магілёва дый якраз зьвярнуў увагу на аднаго, свайго блізкага калісь суседа, які хадзіў па калідоры, але на салю не заходзіў, бо там было піва і гарэлка, а ён зарокся, бо за п'янства шмат разоў быў караны — ажно трапіў у шпіталь псыхічна хворых! Таму, што ён ня быў пэўны самога сябе, дык і не заходзіў да тых весялуноў.

Аж вось падыходзіць да мяне стары (гадоў 80) дзед і кажа: — Вашэцю выклікае ў калідор ваш прыяцель, Пятрусь.

Кажу старому: — А вы знаеце Пятруся?

— Каго? Гэтага хулігана, Пятруся? О, ведаю добра! Але гады бяруць сваё: што ён тут выробляў у маладосьці! Бывала, прыйдзе ў клюб ці ў якую кампанію, — яго арыштуюць, а трэ плаціць за ўсе шкоды, што ён прычыніў. Ну, выпусьцяць, а ён ізноў робіць сваё! Нарэшце ён стаў чалавекам, аднак позна: праўда, што ўжо яго правучылі і ўзяўся за розум. Ведае, якую шкоду прычыняе п'янства, дык нават ня толькі ня п'е, але й ня хоча глянуць туды, дзе напіваюцца.

У гэты момант падыйшла да нас жанчына з дачкою, тоненькай як сьцябло і на цэлую галаву вышэйшай ад маткі.

— Ці бачу я Сымоніху? — спытаўся я.

— Але, гэта я — Альжбета!

Мы прывіталіся, пачалі гутарку. А ейная дачка гаманіла таксама нашай мовай, аднак крыху з чужым акцэнтам, бо яна-ж не хадзіла ў беларускую школу, а роднай мовы навучылася ад сваей маткі.

— Ну, як-жа жывецца? — спытаўся я Альжбету.

— А вось так. Дзевяць гадоў, як жыву адна з дзецьмі.

— А ці ня думаеце падабраць чалавека, каб памагаў вам у жыцьці?

— Дый нашто мне лішні клопат? — гарэзьліва адказала Альжбета. — Калі з Сымонам стаўся нешчасьлівы выпадак у фабрыцы, дык найменшаму хлопчыку было тры гадкі, а цяпер яму дванаццаць. Пасьля я паслала старшага ў навуку, а гэтая мая дачка ўжо замужам. Дык, калі я дажыла да гэтага часу бяз мужчыны, цяпер мне будзе куды лягчэй. А па другое, дзе-ж яго знайсьці, такога чалавека, каб спадзявацца помачы?

— Кажаце, што гэтая замужам, а дзе-ж ейны муж?

— На няшчасьце, ён у гэтым В'етнаме . . . — Сумна адказала яна. — Але за два тыдні будзе дома, — пісаў мне муж адтуль: — сказала тоненькая жанчынка.

І яшчэ спаткаў я там і асадніка з пад Нарачы. Хто ён? Я й ня ведаю — ці паляк, ці ўкраінец, або летувіс, а мо' й беларус? Ці ён быў нашым ворагам ці прыяцелям? — не магу згадаць. Але гаварыў нашай чыстай беларускай мовай.

— Ну, што вам пішуць з Бацькаўшчыны?

Аж нарэшце з Пятрусём я пабачыўся, калі ўжо зусім выходзіў. — Праведай Грыгора! — казаў Пятрусь: — скажы яму, што бачыўся са мной і што я чуюся ня дрэнна, хоць мне вельмі сумна: браты мае загінулі на вайне, а іхнія жонкі і дзеці пішуць мне з Беларусі. Памагаў я ім, колькі мог, але цяпер мой запас ужо вычарпаўся. Каб я з Рыгорам быў разам, было-б лягчэй дажываць век. Мы-ж з ім разам гадаваліся, пасьвілі быдла і разам пераехалі ў Амэрыку, але падчас дэпрэсіі мы на ўсе бакі шукалі працы і прышлося мне забадзяцца аж сюды, а ён астаўся каля Бастону.

Калі мне трэ было ісьці да самалёту, мы пацалаваліся з Пятрусём і я ўбачыў, што па зморшчаным ягоным твары пакаціліся сьлёзы. А праз маленькае ваконца самалёту я яшчэ бачыў, як ён махаў мне рукою. А за гадзіну і 30 мінут я ўжо быў у Бастоне. Дзіўнае сучаснае падарожжа!

*Н. Пастаўскі*

АЎСТРАЛІЯ — МЕЛЬБУРН, 25. IX. 1969

Перасыпаю зямлю з Бацькаўшчыны з хустачкі ў шкляную сальнічку.

Найшчырэйшыя прывітаньні — зноў з Аўстраліі, куды вярнуўся пасьля 75-ці днёў вандроўкі па сьвеце. Як хутка гэта ўсё праляцела! Здаецца, прысьнілася. Бо такая іншая была рэчаіснасьць ад майго штодзённага жыцьця, што ледзь памаленьку да яго вяртаюся! — Аж самому верыць ня хочацца, што сапраўды аб'ехаў наўкол сьвету і што пабачыў гэтулькі цікавых куткоў, месцаў, краёў дый пазнаў новых людзей, адведаў старых знаёмых і прыяцеляў, прывітаў Матку, сястру й брата, надыхаўся паветрам Бацькаўшчыны, якая цэлы час стаіць у вачох і да якой — на жаль — нельга вярнуцца, бо яна зьмянілася і зьмяніўся я сам, — (запусьціў ужо кареньчыкі — хай сабе і маленькія ў аўстралійскую зямлю!), — значыць, тут, здаецца, астануся ўжо да канца жыцьця...

Калі быў так далёка — там, у Вас — было цёпла й суха, а прыехаў сюды й пабачыў, што горы пакрытыя сьвежым сьнегам, а ў Мэльбурне холадна й мокра. — Бррр! Хацелася бунтавацца. Дзе-ж справядлівасьць? Але-ж зноў, калі спадкаў свае мілыя дрэўцы ў гародзе — пэрсікі, пакрытыя буйнымі кветкамі, бярозку з маленькімі лісточкамі і інш., — дык пачуў, што тут пачынаецца вясна.

Адным словам — так ці гэтак, але вярнуўся дамоў! Разглядаюся, наводжу парадак, чытаю, пішу, адпісваю... Часта ўспамінаю Вас: я вельмі здаволены, што меў шчасьце пазнаць Вас, Айцец Рэдактар! Можа нават і не пазнаць, а пабачыць, бо амаль не гутарылі з сабою. Так ужо зладжылася, можа і з маей віны?

Са свайго падарожжа я здаволены і таму, што мацней пераканаўся аб тым, як Захад пазволіў нам «людзьмі звацца і людзьмі стацца», хаця ня ўсе імі хочуць быць... Нашыя людзі скрозь добра жывуць і нямала іх уладзіліся лепш, чым можна было спадзявацца.

А цешыцца трэба і з таго, што і на нашай Бацькаўшчыне людзі жывуць шмат лепей, чым калісь. Праўда, не зрабілі такога прагрэсу, як на Захадзе, але поступ ёсьць і таму таксама яны здаволены — можа нават больш чым мы, бо маюць меншыя апэтыты. Гэта наконт матар'яльнага дабра, якое нашых ня толькі калечыць, але часта дабівае. За час маей адсутнасьці пахавалі ў Мэльбурне 3-х нашых ведамых беларусаў, Б. Яцкевіча, М. Субача і С. Розмысла. Шкада! Адыйшлі нечакана. Яшчэ больш парадзелі нашыя шэрагі.

На гэтым канчаю і ўсяго найлепшага!

*М. Н.*

АЛЬБАНЫ, 27. IX. 1969.

У «Божым Шляхам» за травень—чэрвень я прачытаў вельмі паважны заклік да нашае «сьмятанкі», — надта ёмка! Аднак спадзяюся, што гэта будзе «голас, што кліча ў пустыні». Апошнім часам, будучы ў горадзе, я паспрачаўся з нашымі інтэлігентамі. Пайшло пра тое, што Вы зьмясьцілі ў часапісе, а я якобы пералажыў у нашую альбанскую газэту (?). Я-ж ім тлумачыў, што мы лічымся «палітычнымі эмігрантамі, а я-ж амаль невук і то неяк пэцкаю ў сваю прэсу. «А вы — кажу ім — настаўнікі, ахвіцэры, дахтары... Але што-ж? Распузацелі і нат' пальцам ня рухаеце, а называецеся палітычнымі ўцекачамі! Вы, як сьмяцьцё, намытае на берагу мора, ці золата без звону...» З тым мы і раз'ехаліся.

А ў адным нумары «Божым Шляхам» спатыкаюся з «ахвярай» С-ра Г. — адзін фунт! Дзе-ж было сумленьне гэтулькі ахвяраваць? Гэта сапраўды трэба мець вочы Лыскі...

Можа Вам ня ведама, дык ведайце, што тут дахтары маюць у дзень $ 300—400, ў адзін дзень! А Вы хочаце, каб інтэлігенцыя адгукнулася.

Як былі мы ў Нямеччыне ў лягеры, у «Бацькаўшчыне» зьявілася адозва — даць ахвяру на фонд студэнтаў. Я паслаў 20 марак (па рэформе), быццам ад дачкі. Ёй тады было 8 гадоў. Ну, і атрымаў ад іх ліст у самых палкіх словах: «Маргарэтка, студэнты-беларусы ніколі не забудуць твайго добрага ўчынку! Вучыся, а калі прыйдзе пара і ты станеш нашай сяброўкай, мы — цяпер студэнты — дапаможам табе...»

Добра! Якраз і дасьпеў гэты час — прыйшла «пара»! Я паслаў дачку на студыі і знайшоўся ў крытычным палажэньні: банк цягне сабе, шпіталь сабе — (жонка захварэла), — сын у гімназіі — сабе, а ў мяне — адны рукі...

Прыпомніў я пра студэнскі фонд і напісаў таксама моцна палкі ліст: «Так-і-так, памажэце, каб не сарваліся студыі вашае сяброўкі. Даю вам слова гонару беларуса, як вылезу з свае пятлі, ўсё зьвярну!»

І што-ж вы думалі? Паматглі?.. — Нават на мой ліст ніхто не адпісаў! Прышлося мне пісаць да аднаго прыяцеля і зьлёгка ўспомніць пра тое. А ён мне выясьняе: «Я дзіўлюся, як мог ты чагосьці спадзявацца? Цяперашнія дахтары-інжынеры нават не зьвярнулі пазыкі, якую зацягнулі: проста, забыліся!

Дай, Божа! Але, як кажуць: «Спадзяваўся Лыска на костачку, а дастаў палкай!»...

А рэдакцыя хоча, каб нашыя адгукнуліся. —

Тут усе жывуць — ня жывуць, а «жывацеюць» — нашыя даўнейшыя студэнты. Выбачце, што напісаў зацьвёрда, але «праўда ў вочы» — нямілая.

Крыху пра нашую Аўстралію: Зіма выдалася вельмі сухая, якой даўнавата ня было. Вельмі былі скупыя апады — бяда лля фармараў! Усё

павысыхала: травы няма зусім, авечкі дохнуць тысячамі, а нат у хатах няма вады. Пасевы пшаніцы пагінулі: хто і што будзе жаць ці касіць? Абмежваецца ўжыцьце вады на самыя важныя патрэбы. Пачалася гарачая кампанія «пошукаў вады грунтовае». Пераход зімы на вясну проста не заўважаецца — толькі тое, што робіцца цяплей: зіма працягнулася рыжая дый вясна не зелянее. — Скажэце, людзі, што будзе? . .

Дык жадаю Вам усяго найлепшага — шмат здароўя і памыснасьці! *К. Чабатар*

## АЎСТРАЛІЯ — БЕЛАРУСЬ

У лістападзе я ехаў на нашай «помпе» з працы: стаяў і пампаваў разам з сябрамі. Бура пылу, распаленае да бела сонца. Усё навокал — буш (зарасьлі), высокія дрэвы-эўкаліпты і сухая трава — было пакрыта шэраватай пылюгай. Вада ў брэзэнтавай торбе была гарачая і пахла гумай, якую, пачуўшы ваду, абсядалі пчолы. Высока ў небе пераляталі вялізныя хмары папугаў.

На плятформе нас было чатырох, пяты — бос (гаспадар) ехаў на «чужой сіле». Пот заліваў нам вочы. Ад часу да часу «Глэмбокего» (як мы празывалі таварыша-беларуса, які хацеў лічыцца палякам і паўтараў, што ён з «Глэмбокего»), стукаў мяне па плечы і казаў: «Адпачнемы трашэчка!» Тады мы затрымоўваліся і саскаквалі з чыгуначнага шляху, каб прылегчы ў цені эўкаліпту, але ён даваў гэтулькі ценю, як барана павешаная над галавою. Над намі рагатала птушка-кукабара ,скасіўшы галаву і паглядючы адным, як сьпелая вішня, вокам.

Кукабара адляцела. У мяне на душы зрабілася так маркотна, што ня было ні скуль ратунку! Толькі трываў жар ува ўсім целе ад сонца і ад распаленай зямлі, мучыла спрага і галава ўся гудзела.

Пасьля аднаго з такіх «адпачынкаў» украінец Грыцько Тэмнік (назаву яго поўным імем, бо загінуў небарака ў аўта-катастрофе), раптам спытаўся мяне: «Ну, і аб чым ты думаеш, калі так ляжыш пад дрэвам?»

«Успамінаю» . . .

«І я ўспамінаю пра нашыя лясы. А, як вярнуся дамоў, пастараюся стаць лясьніком: вазьму з сабою жонку, а яна ў мяне харошая, і будзем жыць у старожцы. А ці ты падумаў, што старога чалавека перасадзіць на чужую зямлю, дык у ёй зачахне? І ці разумееш, што чалавеку трэ памерці там, дзе жыў усё жыцьцё, на сваім прыгрэтым месцы? А вось мы тут памрэм у журбоце па сваім гнязьдзе.

«Я думаю, казаў я, што нашае гняздо там, дзе будзе нашая сям'я — жонка й дзеці . . .»

«Скажы ты, Косьця, — гаварыў Грыцько — якое ліха нас сюды занесла? Ажно чую, як у сэрцы робіцца перабой!»

— Я таксама, адказаў, успамінаю нашыя наднёманскія лясы.

— А вашы прыгожыя? — спытаўся Грыцько.

— Цудоўныя!

Грыцько нацягнуў капялюх на вочы, падлажыў рукі пад галаву і цяжка-цяжка ўздыхаў!..

Ніколі мне так востра ня ўспаміналіся мае ўлюбёныя месцы як на чужыне! І я лавіў сябе на тым, што бывала нецярпліва чакаю ночы, каб у цішы вярнуцца думкамі да гэных дарагіх мясьцін і прайсьці па іх паволі, удыхаючы хваёвае паветра, насычанае смалою. Я гаманіў сам сабе: — Сягоньня пайду на Чарашлянскае возера, а заўтра ў Дубнікі і Пацэнкава . . . —

І аж у мяне замірала сэрца ад тых уяўных наведзінаў!

А вось аднойчы, лежачы так на адпачынку, у мяне так жыва зарысаваліся ўсе падрабязнасьці таго чароўнага возера, што здавалася — няма большага шчасьця, як яшчэ раз убачыць яго сваімі вачамі. І прайсьці на свабодзе па тых берагох, забыўшы аб усіх турботах і нягодах у Аўстраліі . . . а мае грудзі так лёгка хвалявалі, як тыя хвалі на возеры, а сэрца так жыва біла, як тыя рыбкі падскоквалі з вады ! . .

Але вось я ў лятуценьнях (усё пад тым няшчасным эўкаліптам) — праходжу рана-раненька па пяшчанай вуліцы ў сваей вёсцы і бачу на падаконьніках як у вазончыках цьвітуць агнявыя бальсамінкі. Часамі іх называлі «агеньчыкамі», хіба таму, што цьвілі ярка чырвонымі дробнымі кветачкамі, быццам полымя палала.

А вунь далей ля студні гаманлівыя дзяўчаткі басаножкі дастаюць ваду з глыбокай прорвы. Зварачваю ў думках у вулачку і бачу ведамага ўсей вёсцы прыгажуна пеўня: ён часта стаіць на аднэй назе і палае сваім апярэньнем як горба гаручага вугля. А за пеўням і хаты канчаюцца дый цягнецца даліна — вялікі луг, дзе даўно-даўно працякаў Нёман, пакінуўшы па сабе вазяркі, сажалкі, стаўкі і вадаёмішчы, што зарасьлі латацьцём, ліліямі, асакою. А там водзяцца карасі або ліны, тоўстыя як вяпрукі.

За прагалінай непралазным гушчарнікам стаіць малады хвойнічак, але нашыя малышы патраплялі праз яго прашмыгнуць, хоць пакідаў на іх сьляды — драпіны на руках і на пальцах ліпучыя плямкі смалы. Паміж хвоячак на пяшчаным грунце расьце жорсткі верасок — такая высокая сухая трава: сярэдзіна кожнай травінкі сівая, а беражкі цёмна-зялёныя і яны рэжуць рукі як вострым сярпом. Тут-жа цьвіце шмат жоўтых шурпатых бяссьмертнікаў і белае духмянае мяты.

За хвойнікам пачынаецца высокі магутны бор, які называюць «Пярэстань». Па ягонай абочыне ідзе заросшая дарога. Нямала з нашых урочы-

шчаў носіць легендарныя назвы; паводле старых людзей яны зьвязаны з паходам Напалеона праз Беларусь у 1812.

«Асочышча», дзе асочвалі ворага, «Пацэнкава», дзе ацэньвалі ягоную сілу, «Вострава», дзе вастрылі мячы, «Стокі», дзе стачаліся — (спатыкаліся), «Цёмны Кут» — тут загналі ў пастку. І г. д. — Ведама, ўсяго не перакажаш . . .

А ў «Цёмным Куце» шмат было высокіх капцоў, абросшых дубняком і арэшнікам. Кажуць, што паводле тадышняе ваеннае тактыкі на такіх капцох ставілі гарматы і стралялі.

Нашая дарога вядзе праз стары хваёвы лес, які расьце на пясчаных узгорках, а на спусках і ў далінах працягваюцца лагчыны, дзе пануе вялізнае валадарства папараці з выкручастымі лістамі як ласёвыя рогі. А лес на ўзгорках увесь купаецца і красуецца ў сонцы і цягнецца палосай — да трох кілямэтраў; а за ім адкрываецца пясчаная раўніна, дзе дасьпявае, паблісківаючы і хвалючы на сонцы, збожжа. За раўнінай ізноў пачынаецца лес, але гэта ўжо поўная, так званая «Налібоцкая» пушча.

Ідучы ў глыбокі лес, трэба кіравацца між збожжа мяжою, зарослай піжмай: па бакох сінеюць васількі . . .

*

Усё, што я ў думках бачыў і пяром апісаў, гэта было перадлесьсе і нарэшце ўступаем у поўную пушчу. Тут уваходзіш як у вялізарны поўны ценю маестатычны сабор. — Найперш мінаю азярцо, пакрытае раскай, сплеценай травою, як-бы зялёным дыванам. Але тут стану і слухаю і чую, як чвякаюць-жыруюць у траве таўстыя карасі. Тады пачынаецца ўчастак сырога бярозавага лесу з бліскучым імхом: пахне апаўшым — яшчэ леташнім-лісьцем. А тут зара будзе месца, аб якім нельга падумаць, каб балюча ня сьціснулася маё беднае, кволае сэрца, бо то ўсё я ўспамінаю, лежачы пад высокім эўкаліптам, на якім сядзіць-рагоча кукабара . . . —

Поўдзень. Сонца жарыць бяз літасьці! Мяркую, як далёка да таго беларускага пералеску ў Налібоцкай пушчы? А там цяпер ноч, але з водгукамі зязюлькі, з перасьвістамі салаўёў. — Там палаючыя агнямі сузор'і, іхны водблеск у глыбокай вадзе вазёраў, запах хвоі і ялоўцу . . . А тут — сьмярдзючы пыл, што зацягвае сонца і душыць грудзі і асьляпляе вочы . . .

А якая цішыня ў нашай пушчы! Бястурботны дзень зусім сьпелага лета. Маленькія стракозы з чырвонымі крыльцамі сьпяць на пнёх, а па белаватых парасончыках-кветках бегаюць чмялі: яны сваім цяжарам зьгінаюць кветачкі бадай да самай зямлі. На абросшым сівымі лішаямі каменьні грэюцца сьветла-зялёныя яшчаркі.

Аж нарэшце зьвяртаюся (усё гэта яшчэ ў фантазіі!) да Чарашлянскага возера: асталося 4-ы кілямэтры. Заўважаў усе прыкметы: вось сухая асіна пры дарозе, вялізны муравейнік, дальш ідзе прыгожая лагчынка, дзе цьвітуць сінія незабудкі, а за ею стаіць тоўстая хвоя з выразанай літарай «В» — возера. І ад гэтай хвоі трэба зьвярнуць проста ў лес да высокага дуба. А нарэшнце апошняя прыкмета: на аднэй хвоі вісяць нечыя ссохшыя лапці, далей вузкая прагаліна і круты абрыў. І недзе там у кілямэтры адсюль хаваецца шуканае возера — дзяржава цёмных водаў, вялізных карчоў і белых лілеяў. Але ісьці па імшарах трэба вельмі асцярожна: пад нагамі хлюпае чорная вада і ад кожнага кроку дрыжаць кусты і дзераўцы, бо грунт — гэта пласт торфу на мэтр таўшчыні і глыбей пад ім ужо цягнецца падземная возера. І там хаваецца паважная рыба і ейны князь — чорны як вугаль балотны шчупак.

Да возера найлепш прыйсьці ў позьнім зьмерканьні, калі пануе поўны супакой і ціш ува ўсей натуры, а навакол бачыцца слабенькі водбліск вады і першых зорак у ёй і ўжо ледзь атсьвечвае гаснучы захад неба. Трэба знайсьці сушэйшае месца, сесьці ля вогнішча і ўслухацца, як патрэсківаe сухое суччо, як прабуе свой голас салавей і буду марыць аб тым, што жыцьцё сапраўды прыгожае і цудоўнае, калі чалавек спакойны, здаровы і нікога не баіцца.

Наўкола сапраўдная «цемра таямніц» у цішыні, толькі зьверху нада мною высачэзныя асіны, на якіх ледзь чутно лапочуць лісткі на тонкіх чаранкох, зьлёгку гайдаюцца доўгія вісячыя галіны ніцае бярозы, а магутны дуб, як рыцар, стаіць на варце ля прыгажуні ліпы. Я ляжу на мяккім дыване моху, камары кружаць віткoм — «таўкуць мак», птушкі пакрысе заціхаюць, яшчэ чутны залаты галасок малінаўкі, што зьвініць нявіннай радасьцяй. І вось глыбей западае цемра . . . лес глухне. Ціха і дрымотна навокал. Драмлю і западаю ў глыбокі сон» . . .

*

Так я брадзіў успамінамі па беларускай прыродзе тут, у гэтай гарачай, запыленай Аўстраліі і тымбольш адчуваў гаркату і боль у душы, што згубіў Бацькаўшчыну і красу яе на заўсёды! І мусіць ужо ніколі яе не пабачу? І пэўна таму яны мне здаваліся такімі бязьмерна прыгожымі і дарагімі . . . І пытаўся я сам сябе: «А ці-ж там я ўсяго не заўважаў і праходзіў абыякава міма?» О, не! я і там цешыўся красою свайго дарагога краю, але яно не ўяўлялася мне так жыва і вобразна, як на гэтай сьпякоце ў чужой далёкай Аўстраліі!

Скажам прасьцей: прыроду трэба ўмець ацаніць і любіць, асабліва сваю родную.

Можна было-б яшчэ нямала напісаць аб маей дарагой Бацькаўшчыне, асабліва аб Наваградчыне. Можна ганарыцца ейнымі балацьцямі — лясамі і лугамі, торфам і падземнымі скарбамі, што цяпер выкрываюцца, сенам і бульбай, мала-

ком і грыбамі і любіць сваю зямлю-карміцельку, якая дае вялізныя ўраджаі. Не, ня толькі гэтым, але яшчэ больш тым, што яна такая красуня чароўная, хоць яе прыгожасьць раскрываецца паволі і найбольш тым, хто ўмее цаніць прыгожасьць сваей чыстай і разумнай душой.

Ах, каб Усёмагутны Бог памог нам вярнуць нашую вольную незалежную Бацькаўшчыну, а ў ёй вучыць нашых дзяцей у свабоднай беларускай школе, маліцца там у роднай беларускай Царкве, працаваць на родных палетках бяз прыгону і вызыску цёмнае сілы!

Хай жыве Беларусь!

---

*Думкі з прачытаных кніжак*

АБВЯШЧЭНЬНЕ РАМА-КРЫШНЫ:

Для яго Бог быў як бацька, матка, брат, сястра і наагул як усё блізкае і роднае. Ён зразумеў, што золата мае роўна гэтулькі вартасьці, колькі зямля, і затраціў усялякую любасьць да багацьця, разумеючы, наколькі недаўгавечныя і нятрывалыя ўсе рэчы, якія могуць быць здабытыя за грошы. Ён часта гаварыў, што несьмяротнасьць ня можа быць купленая за грошы, і паказываў сваім прыкладам, сапраўднае значэньне аднаго сказу з «Вэдаў» — (сьвятой кнігі індуізму):

«Ні ўчынкам, які заслужыў узнагароду, ні шляхотным ураджэньнем, ні багацьцем, але толькі адным адрачэньнем можа быць асягнута несьмяротная Праўда».

Адрачэньне ад замілаваньня да сьвецкіх справаў — гэта ёсьць першы крок да боскай сьвядомасьці. Хрыстос, Будда . . . і другія духоўныя кіраўнікі сьвету ў сваім жыцьці давалі прыклад абсалютнага адрачэньня.

Але ў наш век вельмі цяжка знайсьці поўны ідэал адрачэньня ад сьвецкага замілаваньня. Рама Крышна прыводзіў ў жыцьцё адрачэньне да такой ступені ад багацьця, што ягонае цела няпрыемным адчуваньнем рэагавала на ўсякае дакрананьне да манэты і рабіла рух, каб адсунуцца ад яе, нават падчас глыбокага сну. І ягоныя вучні часта бачылі, як ён церпіць, калі яму здаралася даткнуцца да якой-колечы манэты. — Ці-ж можа быць больш поўны ідэал адрачэньня ў наш век матар'ялізму?

ПОГЛЯДЫ, ШТО ЎЗВЫСШАЮЦЬ ЖАНЧЫНУ:

ШРЫ РАМА-КРЫШНА вучыў, што кажная жанчына, старая ці маладая, была прадстаўніцай Божае Маці. (УВАГА: «Божая Маці» ў індуізьме азначае Моц-Сілу ці Божую Энэргію). Ён часта гаварыў, што ўсе жанчыны паказваюць сабой на зямлі Божае Мацярынства. — Гэта першы раз у гісторыі рэлігіяў у сьвеце аб'яўляўся такі ідэал. А ад прыняцьця такога погляду залежыць збаўленьне многіх людзей — і мужчын і асабліва жанчын у-ва ўсіх краях нашае плянэты — ад немаральнасьці, распусты і наагул ад заганаў, так моцна разьвітых у цывілізаваным грамадзтве.

Да апошняга мамэнту сваей зямной долі Рамакрышна быў абсалютна чысты і нявінны, як дасканалае дзіця Божае Маці. Ён падняў ідэал жанчыны на нязвычайнае ўзвышша . . .

ЯГОНАЯ МІСІЯ:

Ён павінен быў даказаць, што кожная індывідуальная душа ёсьць бясьсьмертная і патэнцыяльна Божая . . .

Ён прыймаў людзкія грахі на сваю ўласную душу і ачышчаў людзей, перадаючы ім сваю духоўнасьць і адчыняў вочы душы сваіх сапраўдных пасьлядоўнікаў. *Абэнаданда*

---

ДУМКІ З КНІГІ «СЬЛЕДАМ ЗА ХРЫСТОМ»

*(Разьдзел XXII):*

*Думкі над людзкой мізэрнасьцяй . . .*

5) Чаму ты адкладаеш на заўтра выкананьне сваей думкі? Уставай хутчэй і зараз пачынай, кажучы: — Цяпер пара барадзьбы, цяпер добрая хвіліна папраўіцца! —

Калі табе дрэнна і цяжка, дык якраз гэта і будзе пара, каб мець заслугу.

Бо «трэба табе прайсьці праз агонь і ваду, пакуль трапіш у месца ахалоды» (Пс. 65, 12). Калі сам сябе ня пераможаш, — не зваюеш сваіх заганаў.

Хацелі-б мы жыць у супакоі бяз ніякай бяды, дзякуючы аднак таму, што згубілі мы праз грэх нявіннасьць душы — з ею згубілі мы і сапраўднае шчасьце . . .

6) О, якая вялікая людзкая нядужасьць, што заўсёды склонная да благога!

Сёньня спавядаешся з сваіх грахоў, а заўтра ізноў робіш тое, з чаго спавядаўся.

Цяпер пастанаўляеш сьцерагчыся благога, а за гадзіну гэтак робіш, як быццам нічога не пастанаўляў.

Дык сапраўды трэба нам спакарыцца і ніколі нічога вялікага ня думаць аб сабе, бо-ж такія мы нядужыя ды нясталыя!

Хутка можна, дзякуючы нядбаласьці, змарнаваць тое, што зроблена праз вялікую працу ды Божую ласку.

7) Што будзе з намі ў канцы нашага жыцьця, калі мы так рана стынем?

Дрэнна з намі, калі мы хочам адпачынку . . ., а тымчасам няма ў нас ані сьледу сапраўднае сьвятасьці.

Надта было-б добра, калі-б мы, горача пачынаючы працу над сабою, нанова прывучаліся да прыкладнага жыцьця: была-б тады надзея на будучую паправу ды на вялікшы поступ духовы.

# Навука і думкі

Бгахаван Шры Рама-Крышна — (гэта ягонае поўнае прозьвішча) — казаў: — Сьвятое імя уладае выратавальнай сілаю, але яго трэба глыбока адчуваць у душы. Бяз глыбокага пачуцьця ў сэрцы ніхто адным паўтараньнем ЯГОНАГА ІМЯНІ ня можа ўбачыць Бога. Чалавек можа паўтараць Ягонае Імя, колькі захоча, аднак, калі ягоная душа аддадзена пачуцёвасьці і імкненьню да багацьца, дык гэта яму мала паможа...

Паўтарайце Сьвятое Імя Бога, але разам з тым маліцеся да Бога, каб Ён даў вам праўдзівую любоў і каб зьменшылася вашая любоў да багацьця, да славы і да цялесных прыемнасьцяў, таму што ўсё гэта ёсьць пераходнае і ня будзе трываць далей заўтрашняга дня.

Бог ёсьць адзін, але Ён мае многа іменаў. Усе сьвятыя пісаньні сьвету гавораць аб адным і тымсамым Богу.

---

*а. Я. Г.*

# Спрэчка з Богам

*Мудры быў цар Салямон:*
*Калі слова раз сказаў,*
*Дык канец — сьвяты закон —*
*Ён нікому ня ўступаў!*

*Ці багаты, ці убогі,*
*Як цар едзе, або йдзе,*
*Уцякалі ўсе з дарогі,*
*Хоць у прорву — абы дзе!*

*Так прайшло прыгодаў многа, —*
*Ажно раз дык ён спаткаў*
*На шляху Самога Бога*
*І таксама ня ўступаў...*

*КАЖА БОГ:*
*«Я — Тварэц наймагутнейшы:*
*У руках трымаю ўсё;*
*А ты — дрэнь, пыл иаймарнейшы. —*
*Усё — маё! А што — тваё?»*

*САЛЯМОН:*
*«А я — цар: я — ўсім на дзіва —*
*Свой народ і ўсю зямлю*
*Суджу й ладжу справядліва,*
*Адзяваю і кармлю».*

*КАЖА БОГ:*
*Адкажы, ці ты-бы мог*
*Накарміць, хоць адзін дзень,*
*Сьвет увесь, як Я — твой Бог?»*
*«Ты ўсіх корміш? Ах, ты — дрэнь!*

*«Магу!» Кажа Салямон:*
*«Зьвяроў, птушак — ўсю скаціну.*
*Дай мне час, хоць трыста дзён —*
*Я здаволю ўсю жывіну...»*

*КАЖА БОГ:*
*«Падпішам акт:*
*Галаву даеш сваю, —*
*Дагавор ідзе ў кантракт*
*Аж на ўсю сям'ю тваю!»*

*

*Грамадзіць пачаў Салямон вельмі сьпешна,*
*(А месца знайшлося на берагу мора),*
*І ежу і пашу, і спрытна і скора.*
*Ляцелі дні шыбка — аж сьмешна...*

*Навезьлі саломы, зладжылі прыгожа*
*Сто тысяч стагоў — травы, сена і збожжа;*
*А мяса і сала — мусіць бочак мільён? —*
*Ня спаў, а камандаваў цар Салямон.*

*Настаў-жа той дзень і ранічкай-рана,*
*Як ледзь на усходзе сьвітаць пачало,*
*Пакуль-жа зьвяр'ё ўсё туды прыбыло,*
*На берагу мора была ежа сабрана...*

*

*Бандаў сем цар вёў гасьцей;*
*Жонак меў колькідзесят,*
*Паўтары капы дзяцей,*
*Хмару слугаў, войска шмат...*

*Цар глядзіць — аж шыбка-шыбка*
*Падплыла пад бераг рыбка*
*Дый пытае адно слова:*
*«Цар, ці ўсё ў цябе гатова?»*

*Цар казаў: «Усё тут ёсьці:*
*Хай плывуць марскія госьці, —*
*Птушкі, быдла — ўсе зьвяраты!*
*Хопіць ежы — я-ж багаты...»*

*«Тут уся мая сям'я:*
*Жонкі, дзеці і сам — Я!*
*А зраблю такі банкет —*
*Затанцуе цэлы сьвет!*

*Цар сьмяяўся, ўбокі браўся, —*
*Думаў — (вельмі ён зазнаўся!) —*
*«Закасую я Самога,*
*(Хто згадае?) ... можа й Бога? ..»*

*

*З вады выйшла рыбка сьмела,*
*Як навокал паглядзела,*
*Кажа: «Ах, як ежы мала!» —*
*Аж галоўкай паківала!*

*Пагглядзеў цар коса й крыва,*
*Кажа ёй з вялікім дзівам:*
*«Рыбка, ты папробуй зьесьці!*
*Як патрапіш ў мора зьлезьці?»*

*Рыбка кажа: «Даю згоду!» —*
*На вачах таго народу —*
*(Апэтыт вялізны мела!) —*
*«Хап і хап!» і ўсё паела ...*

*Збожа й мяса, сена й сала,*
*Траву й зельле, нат салому —*
*Не пакінула нікому; —*
*Усяго-ж было ёй мала! —*

*Людзі дзівам-дзівавалісь,*
*Як здалёку прыглядалісь,*
*Бо такі разгон там мела*
*Што й людзей бадай паела-б!*

*Крычыць: «Цар, ты з добрай волі*
*Дай мне есьці двойчы болей:*
*Раздабрыся —*
*Ня скупіся! ...*
*Твая ежа ўся нягодна:*
*Ці-ж не бачыш? Я-ж — галодна ...»*

*

*Аж тут грозна шуміць мора, —*
*Плыве рыба ўсім навалам:*
*Кіты — страшныя як горы*
*І дэльфіны — ўсім кагалам!*

*Гудзяць-стогнуць, есьці просяць,*
*Цар гамоніць: «Досыць-досыць!» —*
*«Не дасі, дык Бог з табой, —*
*Мы зьямо цябе з сям'ёй!*

*А з лясоў зьвяры выходзяць, —*
*Равуць, брэшуць, пішчаць, выюць, —*
*На дарогах шлях гародзяць:*
*«Есьці дай!» — скрыгочуць, ныюць.*

*Хмары птушак лятуць з неба:*
*«Нам таксама есьці трэба!» —*
*Цар, упаўшы на зямлю,*
*Стогне: «Чым вас накармлю?»*

*Салямон ў пяску качаўся —*
*Аж Сам Бог тут паказаўся. —*
*Бог пытае: «Так-і-так,*
*Ці ты споўніў наш кантракт?»*

*Зара горду галаву*
*З твайго карку дай-сарву! —*
*Ты-ж хваліўся, мае быць,*
*Сьвет усенькі накарміць ...»*

*Салямон казаў: «Я-ж — дрэнь!*
*Бог — магутны, я-ж як пень:*
*Прад Табой я саграшыў». —*
*Сябе толькі асьмяшыў». —*

*

*Дый тут бедам не канец:*
*Цар, як той скупы купец,*
*Што з таварам у дарозе*
*Ехаў і драмаў на возе. —*

*На край лесу вандравалі —*
*Аж ваўкі на іх напалі!*
*Конь са страху тузануўся,*
*Раптам воз, як пахіснуўся,*

*Бочка з нафтай пакацілась*
*І аб камень — бах! — разьбілась,*
*Конь аж рвецца, ваўкі выюць,*
*А ў купца ўсе косьці ныюць! ...*

*

*Як на моры пойдзе бура,*
*Пяруны б'юць, рвецъ віхура,*
*Хвалі проста вар'яцеюць —*
*У змаганьні аж пацеюць —*
*Пенай брызгаюць пад неба ... —*

*Так народ крычаў, дурыўся:*
*Да цара цягнулі рукі,*
*Галасілі: «Хлеба-хлеба!»*
*Салямон аж с толку зьбіўся ...*

*Чуе ў сэрцы болі-мукі —*
*Вокам бачыць, вухам чуе —*
*Кожна жонка лямантуе,*
*Дзеці плачуць — аж галосяць!*
*Зьвяры, птушкі есьці просяць ... —*

*Божы сьвет захваляваўся, —*
*Бунт у войску пачынаўся ...*

*Цар ня знае, што рабіць? —*
*Ля яго ўсё Бог стаіць ... —*

*Бога больш ніхто не бачыць, —*
*Цар пытае: «Што ўсё значыць?*
*Што рабіць? ...»*
*А Бог маўчыць ...*

*Сэрца глуха лапатала —*
*Роспач на цара напала! —*
*Падаў Богу востры меч: —*
*«Галаву сячы мне з плеч!»*

*Кажа: «Нельга перанесьці,*
*Калі дзеці плачуць «Есьці!»*
*А сьвет цэлы збунтаваўся,*
*Божа, бі мяне — я здаўся!»*

*

*Бог той меч скрышыў на попел —*
*Кажа: «Хлеба ў Мяне хопе —*
*Для людзей і для жывёлы, —*
*Заўтра будуць ўсе вясёлы.*
*А ты Богу пакарыся*
*І больш пыхай ня дурыся!»*

*Толькі бачыць Салямон:*
*Бог спусьціў на зямлю сон. —*

*Стрываць сонца не магло —*
*Дый у море залягло.*

*Рыба, птушкі і зьвяраты*
*Дзеці, хлопцы і дзяўчаты, —*
*І малыя і старыя,*
*Як стаялі, як крычалі, —*
*Так запалі, так і спалі . . .*

*Храплі ўсе — зямля дрыжэла —*
*Аж пад раніцу спацела:*
*Раса ў сонцы зігацела —*
*Кожна кропля ў сонцы млела.*

*Зьвяры й людзі паўставалі,*
*Але доўга не зявалі:*
*Пасьля дня такога й ночы,*
*Перш, расой прамыўшы вочы,*

*Па ўсім сьвеце распаўзьліся, —*
*Той сюды, а той туды —*
*Шукаць ежы ўсе ўзяліся. —*

*Салямон ня меў бяды,*
*Але зара, як падняўся,*
*Дык за трэзвы розум ўзяўся . . .*

(Паводле Байкі-легенды, запісанай у татарскай кнізе «Аль-Кітаб» арабскімі літарамі пабеларуску).

---

# Сонца і Месяц

(Фельетон)

МЕСЯЦ: — Мілае сонейка, перачапі мяне ад Зямлі хоць куды-колечы!

СОНЦА: — А што сталася? Ты-ж, здаецца, у належным месцы? .. Бо Зямля — тэта найлепшая плянэта ў маей гаспадарцы; а ты кружыш спраўна і аддаеш ёй маё сьвятло акуратна, дык я зусім табой здаволена.

МЕСЯЦ: — Дзякую! Я Зямлю люблю: яна чароўная прыгажуня і я-ж кружуся ля яе блізка 7 мільярдаў гадоў і ніразу ня змыліўся! Так было дасюль, але амэрыканцы папсавалі ўвесь парадак: як да мяне далезьлі, дык і ўнадзіліся — жыць не даюць. Яшчэ, каб хоць самі аселі, дык нічога: а то мяркуюць зрабіць на мне склад папсаваных машынаў, ці штосьці горшае . . .

СОНЦА: — Та-ак? Дык справа — дрэнь! Але ты не мяркуеш самага найгоршага. —

МЕСЯЦ: — Ай, што такое?

СОНЦА: — Паслухай, сынок! Цяпер на Зямлі эпоха атамнай энэргіі: на Захадзе і на Ўсходзе вучоныя робяць штораз большыя спробы і выглядае на тое, што могуць разарваць Зямлю на абломкі, — тады што будзе з табою?

— Бо ўжо была падобная штучка з плянэтай «Энігма», што кружыла між Марсам і Юпітэрам, дык людзі там да таго пасварыліся, што разарвалі сваю плянэту на паўтары тысячы астэроідаў, якімі цяпер запаганілі маю стройную гаспадарку.

МЕСЯЦ: — Ах, даражэнькае сонейка! Ратуй мяне загадзя: прычапі да іншае плянэты . . .

СОНЦА: — Добра, але куды-ж цябе давіндаваць? Усе добрыя месцы занятыя: Марс мае сваіх 2-х спадарожнікаў; а пра іншыя плянэты няма і гутаркі, бо Уран мае 5, Сатурн — 9, а Юпітар — 12!

МЕСЯЦ: — Што-ж? Я згадзіўся-б і на 13-га . . .

СОНЦА: — Праўду скажу — шкода мне цябе! Падумай ты, якое палажэньне ў маёй сыстэме? Сатурн аблятае наўкол мяне блізка ў 30-ць гадоў, Уран — у 84, Нэптун — у 165, а Плютон — аж у 248!

— Праўда, Юпітар спрытнейшы — яму хапае 12-ці гадоў, але ты ля яго быў-бы ў цемры — так ён далёка ад сонца! . .

— Дык, калі хочаш, магу цябе прычапіць да Вэнэры ці да Мэркурага: яны тут блізка і ня маюць спадарожнікаў . . .

МЕСЯЦ: — Дзякую, але я яшчэ падумаю, бо на Мэркурым (я ведаю!) лішне горача, а на Вэнэры і хмарна і чадна.

СОНЦА: — Падумай, сынок!

МЕСЯЦ: — Што казаць? Няма на сьвеце лепшага месца, чым маё, ля нашай цудоўнай Зямлі, каб не паганыя амэрыканцы . . .

# ПАВАЖНЫЯ ЖАРТЫ

## I. ДАГАРЫ НАГАМІ

*Ад вякоў у нас бывала,*
*Што жанчына апранала*
*Сукню доўгу ці спадніцу:*
*Так дзяўчынка й маладзіца,*
*Хоць усю сябе хавала,*
*А прыгожа выглядала!*

*Дый цяпер, як бачуць людзі,*
*Сьвет чамусь пад сонцам блудзіць:*
*Так, гаворачы між намі,*
*Ходзяць людзі ўверх нагамі . . .*

*Кажуць хлопцы, што бароды*
*Сто гадоў ня выйдуць з моды:*
*Ні стрыгчыся, ні галіцца —*
*Шчасьце, што ня трэба мыцца! —*
*Дзікунамі трэ' зрабіцца.*

*А жанчыны . . . што ім стала?*
*Ці-ж у крамах бракавала*
*Матар'ялу на спадніцы,*
*Што не маюць чым прыкрыцца?*

*Бродзяць з голымі нагамі:*
*Адна з тоўстымі, як з пнямі, —*
*А жылякі, як вужакі, —*
*З цёмна-сінімі вузламі.*

*А другая . . . (як згадаці?*
*Я не знаю, што сказаці . . .).*
*Ногі — цыбы, як бусьліны —*
*Між кален прайшла-б машына!*
*То крывыя, як цялежкі;*
*То калені, як даўбешкі.*

*Ах, дзяўчаткі! Эх, жанчыны!*
*Мушу шчыра вам прызнацца:*
*Каб ня мець вам больш клапотаў,*
*Лепш у цётчыну капоту*
*З тымі ножкамі схавацца!*

*Ці-ж у тэй паганай модзе*
*Вас паставіць у гародзе?*
*Можа ў полі — між загонаў,*
*Каб там страшылі варонаў?!*

Н—скі

Массачузэт, Амэрыка.

7 X. 1969.

## II. ДУМЫ МАЛАДОЙ ДЗЯЎЧЫНКІ

*Мароз, вецер — зіма грозна*
*І дзяўчынка церпіць кожна:*
*Ножкі голы — нявыгодна, —*
*Трудна рада — гэта-ж модна!*

*Яна кажа:*
*«Мая цётка, так як скрыпка —*
*І старая*
*І худая —*
*Зімой ходзіць шыбка-шыбка!*
*Яна ў ватным ўся адзеньні,*
*Але з голымі каленьмі . . .*
*«Я-ж ад цёткі маладзейша —*
*Прыгажэйша*
*І далёка разумнейша!*

*«Захварэю, умру можа?*
*Што-ж рабіць? Ах, Божа-Божа! —*
*Аднак лепш няхай я згіну,*
*Але моды не пакіну! . .*

*«Пакуль прыйдзе ў моду зьмена,*
*Рэж спадніцу звыш калена —*
*Так, ці воляй, ці няволяй —*
*На паўмэтра або й болей!*

*«Мода — ведзьма! Я то знаю:*
*Ева так хадзіла ў раі,*
*Пакуль глупа саграшыла —*
*З лістоў хвігі сукню сшыла . . .»*

*«Дык і я . . . ах, мама-мама!*
*Мушу жыць вось гэтаксама . . .»*

Вінцук А.

Лёндан, 20. X. 1969.

---

### МІЛАСЭРНАСЬЦЬ

Заяц прабег сьцежку ня там, дзе належыць: яго асудзілі — забіць, выпатрашыць і ўсмажыць. Ён падаў прашэньне аб памілаваньні і леў загадаў выкрасьліць слова «забіць»: тады зайца жывога выпатрашылі і ўсмажылі.

*

Жылі-былі адзінаццаць курэй і адзін пятух: усе мелі куранятак і кажная сям'я мела сваю матку, але бацька быў супольны; ён з фасонам падыходзіў да кожнай сям'і, але сьпяваў толькі тым, у якіх меў што есьці . . .

*К. Ч.*

## ВІХРАВАТЫЯ ДУМКІ

### КОЛЕРЫ

— Чорныя і жоўтыя народы шчасьлівейшыя ад белых.

— Чаму?

— Ім зусім непатрэба мыцца, бо ўсёроўна да белага не дамыешся. Дый там мужчынам не патрэба галіцца, бо ні бароды, ні вусы не растуць. А жанчынам — паводле моды — ня трэба скарочваць «міні», бо наагул у гарачых краях ходзяць зусім «так» . . .

*

— Самы няўдалы колер чырвоны.

— Чаму так?

— Няведама чаму, бо вось Масква памалявала Кітай на чырвона.

— Ну, дык і добра!

— Але-ж зусім дрэнна, бо іхны жоўты колер прабіваецца наверх, дык народ зрабіўся страката-пярэсты: затое яны і сварацца з Масквой.

*

— А Чэха-Славакі ледзь адмылі з сябе чырвоную хварбу . . .

— Усё надарма!

— Чаму так?

— А таму, што наляцела Масква з «дактрынай Брэжнёва» — з ярка-чырвонай хварбай, польска-нямецкім клеям і з баўгарска-мадзярскай палітурай: цяпер умацавалі чырвоны сталінізм аж да прышлага новага Дубчэка!

*

— А які колер мае месяц?

— У Маскве кажуць, што ўсходзіць і заходзіць чырвоны.

— А ў Амэрыцы кажуць, што кружыць і сьвеціць белы.

— А што кажуць астра-наўты?

— Кажуць, што ён шкланна-шэры.

---

## САВЕЦКІ БЫТ

### БЛЫТАНІНА АБАВЯЗКАЎ

Сабака пільнаваў сьвіран з мукою; а мышы грызьлі мяшкі і елі муку. Кот хацеў лавіць мышэй, але яго не дапускаў сабака, — дык мышы пільнавалі муку? . .

Хрушчоў загадваў беларусам сеяць кукурузу, але яна ў Беларусі ня высьпявала: калі сеялі, дык ня мелі чым аддаць «паставак» і іх каралі за сабатаж. А калі ня сеялі, дык іх каралі за зьмену пляну ў пасевах, значыць, таксама за сабатаж.

# Зварот да Паважаных Чытачоў

*РЭДАКЦЫЯ «БОЖЫМ ШЛЯХАМ» вітае Дарагіх Суродзічаў-Беларусаў, а таксама нашых Прыяцеляў-Дабрадзеяў, Кольпортэраў і Чытачоў нашага часапісу з Вялікім Сьвятам Хрыстовага РАЖСТВА і жадае шчасьлівага НОВАГА 1970 Году!*

*Просім такжа нашых ласкавых Чытачоў ня толькі, каб чыталі «Божым Шляхам», але і каб належна яго крытыкавалі, каб прысылалі ў Рэдакцыю свае весткі, карэспандэнцыі. лісты ў розных справах і патрэбах жыцьця на эміграцыі. Колькі будзе магчыма, будзем даваць адказы ці прыватна, ці ў часапісе.*

*Кажны разумее, што Рэдакцыя ня можа працаваць і служыць грамадзтву бяз помачы Чытачоў, а найперш без падпіскі на часапіс. Дык чакаем і просім — на Ваш Гонар і Сумленьне — ПАВАЖАНЫЯ ЧЫТАЧЫ, зьвертаць нам належнасьць і доўг!*

*Перапрашаем, што часамі залішне моцна ў сваіх «зваротах» мы націскалі, спаганяючы падпіску; аднак, праўда, што гэта нямала каму і памагло. Ад Новага Году будзем у часапісе квітаваць прысланае пачатковымі літарамі.*

---

ЗЬМЕСТ



---


Druck: „LOGOS“, Buchdruckerei u. Verlag, G.m.b.H., München 19, Bothmerstr. 14.